# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 14 (276) 12 — 18 красавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!


***Наш зямляк касманаўт Уладзімір Кавалёнак, "прызямліўшыся" ненадоўга ў Мінску, дасылае літаральна касмічнае прывітанне ўсім чытачам "К", пакінуўшы яго ў форме аўтографа нашаму карэспандэнту, а значыць, і нашай газеце.***



***Урэшце, сённяшні дзень 12 красавіка, магчыма, святкуюць не толькі зямляне, але і жыхары іншых галактык. Ва ўсялякім разе, дужа хацелася б у гэта верыць! Сімвалічна, што з нагоды гэтай касмічнай даты мы адсылаем вас "per aspera" да лічбы "12". Менавіта на гэтай старонцы вы даведаецеся пра "небазнаўчы" ліст Язэпа Драздовіча, пра дэбаты вакол каметы Хэйла-Бопа, хвост якой не дае спакою чалавецтву.***

# ДЫЗАЙНЕР СКАЗАЎ "ЧЫЗ" І... "ПАШЫЎ"



## ДЖЫНСЫ ДЛЯ АЎТАМАБІЛЯ



***Дызайн... Гэтае прыгожае слова ўпершыню з'явілася ў міжнароднай тэрміналогіі напрыканцы 50-х гадоў. А ў асобны від мастацка-праектнай дзейнасці дызайн вылучыўся на пачатку XX стагоддзя. Дызайн — гэта сінтэз мастацкай творчасці, навукі і тэхнікі. Але, акрамя гэтага, дызайн — гэта і дзяржаўная ідэалогія, і духоўная культура, што вызначае эканамічны імідж краіны.***

***Дык што ж адбываецца ў наш час з айчынным дызайнам, які апынуўся ў такім глыбокім крызісе?***

***Сёння наш суразмоўца — прэзідэнт Беларускага Саюза дызайнераў Дзмітрый СУРСКІ.***

(Працяг на стар. 2-3)



**Усмешка ад мастака Уладзіміра Цэслера для "новых беларусаў"**

**Як нам паведамілі ў аб'яднанні "Белпошта", з красавіка падпісчыкаў "Культуры" паболела. Дзякуй вам за давер, нашы старыя і новыя прыхільнікі! Скарыстаўшы гэты факт, мы звяртаемся да тых, хто з нейкай прычыны не паспеў аформіць падпіску: не хвалюйцеся, вы можаце гэта зрабіць у кожным аддзяленні сувязі. Варта толькі заплаціць 7, 14 або 21 тысячу рублёў і ў вашай паштовай скрыні апынецца адпаведна месячны, двухмесячны або квартальны "блок" непаўторнай "К".**

**Наш індэкс: 63875.**

**— Але ж існуе рынак, у якім задзейнічаны комплекснае афармленне інтэр'ераў офісаў, палацаў, катэджаў, існуе рынак рэкламнай прадукцыі і да т.п.?**

— Гэты рынак даўно заваяваны, у асноўным, будаўнічымі фірмамі. Яны маюць магчымасці пастаўляць сюды абсталяванне з Захаду паводле так званага "каталожнага дызайну", з якога замоўцы выбіраюць лямпы, дываны, аздобу інтэр'ераў, мэблю. Па вялікім рахунку гэта нармальна, але пры гэтым адбываецца нібыта "выпадзенне" пэўнага пласта нашых дызайнераў, здольных стварыць свае, новыя матэрыялы і новыя арыгінальныя пластычныя рашэнні. Гэта значыць, мы практычна працуем на чужы рынак, набываючы тыя рэчы, якія там ужо выйшлі з моды...

**— Дзе, у асноўным, працуюць сёння беларускія дызайнеры?**

— Па дробязях — паўсюль: у паліграфіі, у аўтамабільнай і швачнай прамысловасці, удзельнічаюць у праектаванні візуальных камунікацый, у тым ліку, метро, у рэкламе...

**— Дарэчы, пра рэкламу... Як вы рэкламуеце сябе, гэта значыць, свой Саюз дызайнераў, прадукцыю сяброў сваёй творчай арганізацыі?**

— Першай сур'ёзнай формай прэзэнтацыі нашага Саюза будзе каталог, прысвечаны яго нашаму юбілею. Яго рыхтуе малады мастацтвазнаўца Наталля Федасеенка, унучка вядомага мастака Віталя Цвіркі. На гэтую працу Міністэрства культуры выдаткавала ёй стыпендыю на 1997 год. Макет і вёрстку каталога робім, натуральна, самі. Вельмі спадзяёмся, што Міністэрства культуры дапаможа нам у выданні гэтага каталога, у якім мы хочам падвесці некаторыя вынікі творчай дзейнасці нашага Саюза. У перспектыве мяркуем наладзіць выставу плаката, выставу фірменнага знака, бо ў гэтых галінах мы дамагліся шмат чаго...

**— Пяць гадоў таму, памятаю, у Японіі адбылося трыенале плаката, на якім са ста прадстаўленых плакатаў з СССР было адзначана дзевятнаццаць. А з гэтых дзевятнаццаці — дванаццаць з Беларусі! Ці так гэта?**

— Так, было такое. Адным з гэтых плакатаў быў мой...

**— Дарэчы, а чым ты зараз займаешся?**

— Мая дызайнерская праца звязана, у асноўным, з паліграфіяй. Працую над фірменнымі стылямі, фірменнымі знакамі, раблю плакаты, календары. Сур'ёзных праектаў няма, хаця ў галаве ёсць неблагія ідэі, што тычацца і мадэляў арыгінальных свяцільнікаў на біянічных формах, і дызайн-праектаў па шырокім і шматфункцыянальным выкарыстанні пластыкавых бутэлек фірм "Кока-кола" і "Пепсі-кола". Вось нядаўна ва ўкраінскім часопісе "Motor News" я знайшоў свой праект 1982 года —"джынсавы аўтамабіль", які тады не быў рэалізаваны, але, аказваецца, дасюль не забыты...

**— Карацей, што б там ні казалі, але Саюз дызайнераў ёсць і будзе жыць, нягледзячы на велізарныя цяжкасці ягонага развіцця?**

— Спадзяюся, што так. Бо Саюз — гэта не толькі форма духоўных стасункаў аднадумцаў, але хай і невялікая, але і абарона іх, сацыяльная і эканамічная. Нам не трэба нічога неверагоднага ад дзяржавы, мы не прэтэндуем на званні і ўзнагароды, на нейкія асаблівыя льготы. Нам толькі хацелася б, каб грамадства ўлічвала нашыя інтарэсы, бо мы працуем на гэтае грамадства, на дзяржаву. Па вялікім рахунку мы не разлічваем на дзяржаўную падтрымку, хаця яна была б вельмі карыснай і для дзяржавы, яе эканомікі, і для прадстаўнікоў нашай прафесіі.

**— Я ведаю, што некаторыя старшыні творчых Саюзаў атрымліваюць зарплату больш за тры мільёны рублёў на месяц. Калі не сакрэт, які ў цябе заробак?**

— З тае пары, як мяне год таму абралі на пасаду прэзідэнта Саюза дызайнераў, я працую... на грамадскіх пачатках.

**— ???**

**З прэзідэнтам Саюза дызайнераў сустракаўся Барыс КРЭПАК**

*Працяг тэмы*

# Віктар ВУЯЧЫЧ: "ШТО ЁСЦЬ "МАСТАЦКІ КІРАЎНІК"?



***У папярэднім нумары мы анансавалі адкрыццё ў сталіцы новай установы культуры — Маладзёжнага тэатра эстрады, які ўтвараецца пры дзяржаўным аб'яднанні "Белканцэрт" (артыкул "Угадай мелодыю"). Мастацкі кіраўнік "Белканцэрта" Віктар Вуячыч пажадаў дадаць свае бачанне да нашага погляду на новую эксперыментальную канцэртную пляцоўку. Дарэчы, Віктар Лук'янавіч аказаўся адзінай афіцыйнай асобай "Белканцэрта", якая згадзілася весці гутарку пад дыктафон. Напэўна, справа не толькі ў тым, што вядомы артыст прызвычаіўся да мікрафона, але і ў тым, што ён не баіцца адказнасці і, у рэшце рэшт, ведае, што і як рабіць, незалежна ад "бюракратычных" асаблівасцей рэчаіснасці, ідэалагічных ці палітычных момантаў.***

— Творчая канцэпцыя Маладзёжнага тэатра эстрады яшчэ ў працэсе распрацоўкі. Кожны з тых, хто згадзіўся весці маладзёжныя студыі, прапанаваў зараз уласнае бачанне таго, як ён жадае працаваць, як пойдзе працэс адбору моладзі і далейшая, скажам так, "лепка" артыстаў. Усе гэтыя прапановы мы перадалі ў Міністэрства культуры, зараз яно напрацоўвае агульную канцэпцыю. У тэатр прыдуць маладыя людзі —пераможцы эстрадных конкурсаў, студэнты апошніх курсаў Універсітэта культуры, музычных вучылішчаў. Вядома ж, гэта — не навучальная ўстанова, а прафесійны тэатр. Дарэчы, мне ён бачыцца падобным да эстрадна-цыркавых студый, якія існавалі ў былыя часы ў Маскве і Кіеве. У той час Беларусь дэлегавала туды нейкае "імя", якое мела ў сабе адпаведныя патэнцыі артыста, прапловала сродкі на ягонае ўтрыманне. Са свайго боку, майстры студы на працягу года рабілі з ім праграму — шукалі імідж, рэпертуар. У выніку атрымліваўся прафесіянал, які, калі меў галаву на плячах і быў здольны прыцягнуць увагу пракатных установаў, далей удасканальваўся самастойна. У той час тэлебачанне не рабіла такога ўплыву на лёс артыста, як зараз. У маім жыцці, калі надараўся ў год тры выхады ў эфір — гэта лічылася досыць многа. У асноўным вялася штодзённая праца, гастролі, прамы кантакт з канцэртнай аўдыторыяй — з гэтага складалася напрацоўка, тое, што сёння завецца, пардон, "раскрутка".

У тым, што тэатр не атрымае адзінага мастацкага кіраўніка, магчыма, і ёсць перш-наперш разумнасць. Бо што ёсць "мастацкі кіраўнік"? — гэта заўсёды суб'ектыўнасць. Нават маючы права, як магу я або хто іншы навязваць сваё бачанне творцу, кіраўніку той ці другой студыі? Таму такое вось рашэнне — Праўленне для кіраўніцтва тэатрам, гэта значыць, калегіяльнае меркаванне творцаў, якое замыкаецца на Міністэрства, — разумны кампраміс.

Мне прыемна перш-наперш тое, што ў тэатры нормай будзе "жывы" гук. Гаворка ідзе не толькі аб "мінусоўцы" ("мінус адзін" — на прафесійным жаргоне "жывы" спеў пад музычную фанаграму. — І.К.). Базавы музычны ансамбль здолее забяспечыць усіх выканаўцаў. Тэатр дасць неблагія ўмовы для ўдасканалення артыстаў. Распачнуць працу студыя гуказапісу, відэастудыя, пойдзе вялікі рэпетыцыйны працэс. Што да памяшканняў, то для рэпетыцый, апрача асноўнай сцэны, можна выкарыстоўваць хол, балетную залу. Мяркуем, што ў зале можна весці тэлевізійныя запісы. Афіша пачне будавацца як на дывертысментах, так і на сольных аддзяленнях тых, хто да гэтага "дарасце". Увогуле задача існавання тэатра — не камерцыйная, Міністэрства абяцае выдаткоўваць сродкі, каб выканаўцаў апрануць, замовіць для іх песні, аранжыроўкі, запісаць фанаграмы для радыё і тэлебачання — і гэтак далей. На мой погляд, Маладзёжны тэатр эстрады — цудоўны, годны падарунак, які зроблены, як я ведаю, пры непасрэдным удзеле прэзідэнта, маладым людзям, якія жадаюць здабыць сваё "я" на эстраднай сцэне.

Задача майстроў майго пакалення — паспрабаваць захаваць пераемнасць пакаленняў, перадаць тое, што напрацавана. Не ўсё было кепска — лепей казаць, усё было добра, прынамсі, у нашым жанры. Мы зараз на пачатку шляху, важна сумесна працаваць на агульную ідэю, даказаць, што ў нас ёсць маладая эстрада. (Дарэчы, узроставы цэнз маладога выканаўцы — аж да 35 гадоў.)

Што да бліжэйшай афішы, то трэба пачакаць. Адкрыем тэатр, а на выпраўленне недаробкаў спатрэбіцца пэўны час. Але студыі тэатра ўжо пачнуць працаваць. Зараз абавязкі галоўнага рэжысёра тэатра ўжо ажыццяўляе дырэктар — мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання фестываляў і конкурсаў "Белканцэрт" Аляксандр Вавілаў. На адкрыцці першае аддзяленне зробяць студыі Васіля Раінчыка, Алега Елісеенкава, Эдуарда Ханка, я таксама прадстаўлю дзвюх дзяўчын і хлопца. Другое аддзяленне мяркуем аддаць студыі Анатоля Ярмоленкі.

Павінен сказаць: вядома ж, шмат людзей бачаць сябе на сцэне і маюць здольнасці, навык да гэтага. Але ў нашай справе ўсё ж галоўнае — талент, а талент — з'ява надзвычай рэдкая. Таму лішне казаць, што не ўсе жадаючыя ўзыйдуць на гэтую сцэну, хтосьці адчуе сябе пакрыўджаным. Але, я мяркую, калі дзяржава ўкладае сродкі, яна павінна атрымаць адэкватную аддачу. З другога боку, не трэба думаць, што мы ў кароткі тэрмін "народзім зорак". Але тое, што маладых людзей мы пачнем прыводзіць да прафесійнага эквіваленту — гэта безумоўна.

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# АЛЬТЭРНАТЫВА АДПАЧЫНКУ "НА ТРАІХ"

***На жаль, у нашыя дні ўтрымліваць шараговую піўнушку значна прасцей, чым маладзёжны клуб...***



Праблема культурнага адпачынку моладзі, дый і не толькі яе, неадназова ўжо ўздымалася на старонках нашай газеты. Аднак нельга сказаць, што за апошні час становішча кардынальна змянілася ў лепшы бок. Месцаў, дзе б можна было прыстойна адпачыць, у сталіцы нашай краіны, а тым болей на перыферыі, дагэтуль вельмі небагата. І па-ранейшаму яны выглядаюць як прыемнае выключэнне з правілаў на агульным тле ваяўнічай бязгустоўнасці.

На жаль, у нашыя дні ўтрымліваць шараговую піўнушку значна прасцей, чым арыгінальны і прыстойны клуб. І таму апошнія, не падтрыманыя ані дзяржавай, ані нейкімі добрымі дзядзькамі-спонсарамі, пакрысе чэзнуць і ўрэшце знікаюць. У тых адважных і, бадай, самаадданых людзей, якія асмельваюцца рэалізоўваць уласныя нестандартныя клубныя праекты, проста не хапае грошай нават на тое, каб гэтыя праекты акупіць.

Адсутнасць грошай фактычна і сталася прычынай адыходу ў нябыт першай, па вялікім рахунку, хвалі мінскіх клубаў, якая заявіла пра сябе гады са два таму і неўзабаве знікла. Напраўдзе, мала каму прыемна бавіць час у памяшканні размаляванага нейкім фанатычным адэптам сацрэалістычнага мастацтва дзіцячага кінатэатра, вар'яцеючы ад кепскага гуку. І пры гэтым за права правесці вечар у падобнай установе трэба было выкласці проста неверагодную для маладых людзей суму грошай.

Аднак нягледзячы на тое, што лёс першых мінскіх клубных праектаў быў даволі-такі незайздросны, эстафета неўзабаве была перахопленая новымі прыхільнікамі гэтай своеасаблівай культурніцкай дзейнасці. Безумоўна, вопыт папярэднікаў не прайшоў дарэмна. І новыя клубы былі на ўзровень лепшыя за сваіх папярэднікаў.

Адкрыццё ў самай звычайнай студэнцкай сталоўцы каля універсама "Рыга" клуба "Піраміда" можна, бадай, беспамылкова назваць адной з найбольш значных музычных падзей мінулага года. Пад свaім зусім не пірамідальным дахам (ну няўжо дах такой формы калі-кольвечы бывае ў сталовых?) гэтая ўстанова прытуліла ажно два цікавыя клубныя праекты. Адзін з іх — "Джунглі" — прызначаны перадусім для тых, каму нуднавата сядзець дома ў ноч з суботы на нядзелю. Нічым звышарыгінальным праграма клуба не вылучаецца, аднак як на ўрад ці можна назваць банальнай і безгустоўнай. Наадварот, усё даволі прыстойна — "якасная" музыка, танцы, а да таго ж яшчэ і выступленні цікавых беларускіх гуртоў і выканаўцаў. Сярод найбольш цікавых вечарынаў гэтага клуба — канцэрт адной з найлепшых маскоўскіх альтэрнатыўных камандаў "Тай Вокс".

Арыгінальнасцю затое вызначаецца большасць імпрэзаў клуба "Рэзервацыя", які таксама знаходзіцца ў "Пірамідзе". Пра гэта сведчаць хаця б назвы гэтых імпрэзаў кшталту "Праказа — гэта калі адмаўляюцца органы". Прыемна наведаць вечарыну з такім назовам, ці не так?

Спярша "Рэзервацыя" спецыялізавалася выключна на альтэрнатыўнай музыцы кшталту панка, хардкора, гранджа і ладзіла канцэрты маладых яе выканаўцаў. Аднак праз нейкі час у клубе сталі з'яўляцца нават класічныя рок-н-рольшчыкі і праводзіцца канцэрты ўсім вядомых гуртоў. Не тое, каб "Рэзервацыя" кардынальна змяніла свой імідж, проста высветлілася, што беспрытульныя аказаліся не толькі "альтэрнатыўшчыкі". У такім стане знаходзяцца цяпер амаль усе беларускія рок-музыканты, пазбаўленыя магчымасці рэгулярна выходзіць на сцэну. І для ўсіх іх гэты клуб стаўся своеасаблівай рэзервацыяй.

Тым болей, "Рэзервацыя" выгодна розніцца ад астатніх мінскіх клубаў сваім інтэр'ерам і ўвогуле атмасферай. Здавалася б, нічога густоўнага ў пунктах грамадскага харчавання кшталту вышэйпамянёнай сталоўкі існаваць не можа ўжо апрыёры — умовы абсалютна не тыя. Але ўмовы ўмовамі, аднак памяшканне "Піраміды", стылізаванае пад старажытнаегіпецкую экзотыку — адно з лепшых у Мінску. Ёсць нават свая Мумія, абароненая ад публікі шкляным футаралам. Ейная забітаваная маўклівая постаць кантрастуе з markedly розначкаляровай вопраткай наведнікаў клуба і цёплай атмасферай, якая там заўсёды пануе. Таксама нельга не адзначыць густоўна пабудаваную светлавую панараму: святла як быццам бы і шмат, але ж вочы яно не рэжа. Наведнікі "Рэзервацыі" — гэта заўсёды моладзь студэнцкага ўзросту, аднак тамтэйшыя ўмовы задаволяць, напэўна, і больш патрабавальнага і рэспектабельнага аматара адпачынку.

Для тых, каму адпачываць рэспектабельна не даспадобы, то бок дзеля маладых і вечнамаладых панкаў, хіпі, гранджэраў і г.д., прызначаны клуб "Касмапалітэн". Атмасферу гэтай тусоўкі вызначае поўная дэмакратыя, якая шмат у чым мяжуе з анархіяй. У клубе няма ўласнага вядучага, а выступаць там могуць прадстаўнікі любых музычных накірункаў. Публіку катэгарычна забараняецца ўжываць у памяшканні клуба алкагольныя дый наркатычныя рэчывы, а ва ўсім астатнім яна напоўніцу незалежная. Праўда, калі беларускія панкі запрапанавалі ўладальнікам "Касмапалітэна" зладзіць пад 8-е сакавіка імпрэзу з надзвычай феміністычнай назвай "Рок супраць жанчын", іхні праект быў адхілены. Па той простай прычыне, што ўсе прадстаўніцы жаночага полу з наведнікаў клуба ўспрынялі гэтую ідэю катэгарычна "ў штыкі".

Нягледзячы на ўсю ўласцівую "Касмапалітэну" разнявоненасць, гэты клуб — адзін з найстарэйшых у Мінску. Праўда, доўгажыхаром яго таксама не назавеш: два гады, як ні як, тэрмін невялікі. Але ж бадай усім нашым клубным праектам не ўдалося дацягнуцца і да гэтае планкі. Хаця намаганні як-кольвечы падоўжыць свой невялікі заўзвычай век прыкладаюцца. Колькі месяцаў таму аднавіў сваё існаванне бадай найбольш легендарны мінскі клуб "Три поросёнка". Аднак не паспела моладзь як мае быць нацешыцца з гэтага, як бедных свінак ізноў закруціла тая непрыемная фінансавая віхура, якая некалі іх ледзь не задушыла. Вось калі б уладальнікі "Парсючкоў" замест стратнага, па сутнасці, клуба заснавалі просты шынок для неразборлівай публікі... Падаткі, між іншым, аднолькавыя.

"Парсючкі" пакуль што неяк яшчэ чапляюцца за жыццё, а вось клуб "Сікс пісталз", падобна на ўсё, загадаў быць шчаслівымі. Ягоны ўладальнік Аляксандр Грыбло распавёў мне пра сваю мару стварыць сталае і для ўсіх ахвочых даступнае месца адпачынку моладзі з прылеглага да клуба раёна. На жаль, гэтая мара пакуль што не здзейснілася. Прычым Саша і не спадзяваўся калі-небудзь атрымліваць з клуба вялікі прыбытак. Усё трымалася на чыстым энтузіязме, але гэты энтузіязм быў варты, на мой погляд, і падтрымкі прадпрымальнікаў і ўладных структураў.

Але нягледзячы на безліч складанасцяў, паўсталых перад мінскімі клубамі, падобна на тое, што гэтая хваля не знікне. Праўда, і пра ўзбуйненне пакуль што казаць не выпадае. Усё залежыць, ізноў жа, ад эканамічных варункаў. У моладзі проста браке грошай на тое, каб культуральна бавіць свой адпачынак. Хаця і вельмі шкада, што культура ў нас часцяком знаходзіцца ў залежнасці ад нейкага там "жоўтага металу".

**Гальяш СЬВІРЫН**



# АЖ СУТАК НЕ ХАПАЕ!

***Як ужо паведамляла наша газета, у Саюзе кампазітараў на сакавік месяц быў запланаваны прыём новых членаў, але па невядомых прычынах ён не адбыўся і перанесены на красавік. Цікава, ці адбудзецца ён у наступным месяцы? Яшчэ СК плануе ў хуткім часе правесці паседжанні секцый. На наша пытанне: што яшчэ? — нечаканы адказ — больш нічога! Але, добра падумаўшы, усё ж парадавалі навіной: у красавіку пры ўдзеле СК адбудзецца фестываль "Адкрыццё нацыянальных культур". З гэтай нагоды мы вырашылі звярнуцца да мастацкага кіраўніка фестывалю, вядомага беларускага кампазітара Віктара ВОЙЦІКА.***

Ініцыятыўную групу фестывалю складаюць старшыня Беларускага аўтарскага фонду кампазітараў Сяргей Салохін, Ларыса Мурашка, Іван Яновіч, ёсць прадстаўніцтва і ад Міністэрства культуры — Валерый Гедройц, ад Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур — Віктар Мацюшэнка, ад Савета па справах моладзі — Аляксандр Пазняк, да правядзення фестывалю прыцягнуты таксама, як вы здагадаліся, і нашыя прафсаюзы, бо праводзіцца ён у Палацы культуры прафсаюзаў. На гэты момант магу з поўнай упэўненасцю сказаць, што ў склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі па-сапраўднаму творчыя, захопленыя ідэяй фестывалю энтузіясты, у поўным значэнні гэтага слова, якія працуюць зараз літаральна па 18 гадзін на дзень, каб стварыць неабходныя стартавыя ўмовы для яго правядзення. Невыпадковы дэвіз фестывалю, радкі з верша нашага непаўторнага Якуба Коласа: "Мой родны кут, як ты мне мілы..." Фестываль мяркуецца распачаць 21 красавіка, у гэты дзень плануецца адкрыццё мастацкай выставы ў фае Палаца культуры прафсаюзаў, адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Узаемадзеянне і ўзаемапранікненне культур народаў Беларусі". Падчас фестывалю будзе гучаць духоўная музыка ўсіх канфесій, таксама інструментальная музыка ў выкананні выхаванцаў Акадэміі музыкі, лаўрэатаў музычных конкурсаў. Заключны канцэрт, які маецца адбыцца 22 красавіка, пазнаёміць слухачоў з творчасцю майстроў мастацтва нашай краіны. Напрыканцы застаецца дадаць, што чакаецца сапраўднае свята музычнай культуры ўсіх народаў Беларусі...

**Запісала Алена РЫГОРАВА**

# 18 КРАСАВІКА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПОМНІКАЎ І ГІСТАРЫЧНЫХ МЯСЦІН

Віцебск — горад з гісторыяй, якая налічвае больш за тысячу гадоў, адзначае сёлета 400-годдзе свайго самакіравання, якое ён атрымаў паводле Магдэбургскага права ў 1597 годзе. У тым жа годзе на рыначнай плошчы была пабудавана і першая гарадская ратуша. Цяперашняя ж яе пераемніца, якая ўзводзілася ў 1775 годзе і з'яўляецца помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя, толькі яшчэ раз сведчыць пра старажытную незалежнасць славутага горада на Заходняй Дзвіне.



**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# МІЗАНСЦЭНА ПА-ФРАНЦУЗСКУ

*"Мы ўсе ведаем: існуе штосьці вечнае. І гэта не дамы і не назвы, і не Зямля, і нават не зоркі... Кожны ў глыбіні душы адчувае, што ёсць штосьці вечнае і што гэта вечнае неяк звязана з чалавекам".*

***Торнтан Уайлдэр.***

Можа, гэта вечнае — захапленне сваёй справай. Такая думка ўзнікла ў мяне пасля таго, як я наведаў школу № 74 горада Мінска. І настаўнікі, і вучні гэтай школы захоплены тэатрам — тут дзейнічаюць тры тэатры-студыі: "Клас-А", "Claptes", "Сакавік". На базе гэтай школы ўзнік Фестываль франкамоўных тэатраў вучэбных устаноў.

Як усё пачыналася, мне расказала завуч школы Святлана Ізраілеўна Крыўцова. 7 гадоў таму мама адной вучаніцы, Таццяна Алегаўна Шылава, каб неяк аб'яднаць клас, прапанавала стварыць тэатральны гурток, які называлі "Клас-А". Гурток перарос у тэатр-студыю, са сваёй, уласцівай толькі яму манерай ігры і пастаноўкі. Тэатр кожны год здзіўляе гледачоў таленавітай ігрой акцёраў, цікавымі новымі спектаклямі. Не дзіўна, што калі ў 1993 годзе першы аташэ пасольства Францыі па пытаннях адукацыі мадам Лефэўр падчас наведвання школы паглядзела спектакль, то загарэлася ідэяй стварыць фестываль французскіх тэатраў. Яна шмат паездзіла па Беларусі і адчула, што гэта цалкам магчыма.

Першы фестываль франкамоўных тэатраў вучэбных устаноў прайшоў у памяшканні школы. У ім прынялі ўдзел вучні амаль дзесяці школ і студэнты тады яшчэ інстытута замежных моваў. Як адзначылі самі арганізатары, прайшоў ён на ўзроўні самадзейнасці.

Але ўзровень павышаецца з кожным годам. І прэстыж таксама. Летась у фестывалі прынялі ўдзел 12 тэатраў з Мінска, Маладзечна, Гродна, Жлобіна, Бабруйска, Гомеля, Салігорска. Сёлета ўжо пададзена 19 заявак на ўдзел у фестывалі.

Умовы адначасова і простыя, і складаныя: п'еса на французскай мове, аўтар француз, працягласць спектакля не больш за 20 хвілін.

У 1994 — 96 гадах фестываль праводзіўся ў памяшканні Тэатра юнага гледача. У гэтым годзе ён пройдзе ў Палацы культуры "Юнацтва" на вуліцы Фабрыцыуса. Арганізатарамі яго выступаюць Міністэрства адукацыі Беларусі і пасольства Францыі. Міністэрства бярэ на сябе выдаткі за дарогу, харчаванне, размяшчэнне ў Мінску. Пасольства Францыі ганаруе прызамі, і кожны тэатр атрымлівае нейкі прыз: за арыгінальнасць, за музычнае афармленне, за касцюмы, за рэжысуру. Два галоўныя прызы — паездкі ў Францыю — атрымліваюць два лепшыя акцёры. Гэта не турыстычныя пуцёўкі, а прафесійныя, таму што яны даюць магчымасць трапіць на тэатральны фестываль у Францыі і некалькі тыдняў пазаймацца ў тэатральнай майстэрні. З 74-й школы ўжо два чалавекі атрымалі галоўны прыз і пабывалі на фестывалі — уражанні найлепшыя.

23 і 24 красавіка фестываль адчыняе свае дзверы для ўсіх жадаючых. Наведайце гэты парадок, і, магчыма, ён стане для вас чымсьці вечным.

**Міхась БАШУРА**

# "КАМАРЫКІ" "УКУСІЛІ" КАБЗОНА

Нядаўна сталі вядомыя першыя дзесяць лаўрэатаў штогадовай прэміі Усеагульнай Канфедэрацыі прафсаюзаў, якая прысуджаецца за дасягненні ў развіцці мастацкай творчасці. Сярод іх мастак, рэктар Расійскай акадэміі жывапісу Ілля Глазуноў, знакаміты спявак Іосіф Кабзон, мастацкі кіраўнік і балетмайстар Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля народнага танца Расіі Ігар Майсееў.

Вельмі прыемна, што за дасягненні ў мастацкай творчасці, захаванні традыцый народнага мастацтва, умацаванне міжнародных сувязей лаўрэатам прэміі Канфедэрацыі прафсаюзаў 1996 года стаў і заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік узорнага вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Камарыкі" Палаца культуры Наваполацкага аб'яднання "Нафтан" Чэслаў Клячко.

Безумоўна, што такому рашэнню садзейнічала паспяховае выступленне "Камарыкаў" на Першым міжнародным фестывалі мастацкай творчасці народаў СНД летась у чэрвені ў Санкт-Пецярбургу.

У бліжэйшы час спадару Клячко будуць уручаны Сярэбраны знак, дыплом і пасведчанне лаўрэата, а таксама грашовая прэмія.

**Анатоль СУША,**
**загадчык аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

# ВЕЧАР ПРЭМ'ЕР І ДЭБЮТАЎ

Хаця ў небе зараз галоўная сенсацыя — камета з асляпляльным белым шлейфам, у Мінску, у Дзень касманаўтыкі, яе, без сумнення, зацьмяць іншыя свяцілы.

Пасля правядзення абласных тураў конкурсу "Супермадэль Беларусі-97" прыйшоў час падвесці вынікі. І вось сёння ў Канцэртнай зале Тэатра музычнай камедыі пройдзе заключны фестываль моды гэтага конкурсу, які, шчыра кажучы, таксама авеяны подыхам сенсацыйнасці, бо там будуць запальвацца новыя і звышновыя зоркі прыгажосці...

Як нам паведамілі ў рэкламным Агенцтве Сашы Варламава, конкурс "Супермадэль Беларусі" — гэта рэспубліканская кампанія, галоўная задача якой — адкрыццё новых імён, вобразаў, стыляў. Гэта свята прэм'ер і дэбютаў; яскравае свята, што выходзіць за рамкі подыума. Гэта — прадстаўленне новага погляду на жыццё, дынамічнага, каларытнага і каляровага, выяўленага моваю моды, пластыкі і сцэнаграфіі.

Конкурс "Супермадэль Беларусі" — гэта арыгінальная канцэпцыя Агенцтва Сашы Варламава, якое выступае яго асноўным распараджальнікам і валодае аўтарскім правам на назву і творчыя ідэі. Праходзіць жа конкурс пад эгідай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і патранажам памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргея Посахава.

Конкурс дае магчымасць маладым талентам выявіць сябе ў галіне харэаграфіі, моды, эстраднага мастацтва.

У праграме вечара:

— самыя прыгожыя дзяўчаты краіны ў намінацыях "Подыумная і маленькая мадэль";

— фотавыстава ўдзельніц фестывалю ў намінацыі "Супер-фотамадэль";

— новыя калекцыі вячэрніх і авангардных туалетаў "от куцюр" — накірунак 1998 года.

**С.М.**

# З Рэспубліканскай выставы кніжнай графікі, якая нядаўна працавала ў сталічным Палацы мастацтва.



*Ю.Хілко. Ілюстрацыя да зборніка М.Багдановіча "Вянок".*



*Ю.Алісевіч. Ілюстрацыя да венгерскай казкі "Самы моцны звер".*



*А.Кашкурэвіч. Ілюстрацыя да "Новага Запавету".*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "БРАМУ СКАРБАЎ СВАІХ АДЧЫНЯЮ..."

Максім Гарэцкі не заняў належнага месца ў беларускай літаратуры пры жыцці. У яго апошнім апавяданні "Скарбы жыцця" ёсць словы "Браму скарбаў сваіх адчыняю...". Толькі праз паўстагоддзя пасля смерці пісьменніка стала магчыма адкрыць людзям скарбы яго таленту. Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры праводзіць вялікую работу па прапагандзе жыццёвага і творчага шляху аднаго з заснавальнікаў беларускай мастацкай прозы, пачынальніка беларускага літаратуразнаўства, літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі, мовазнаўства, збіральніка і прапагандыста вуснай народнай творчасці Максіма Гарэцкага. Аб гэтым сведчыць экспазіцыя музея "Покліч", у якой адлюстраваны трагічны лёс пісьменніка, яго філіял у в.Малая Багацькаўка, на радзіме Максіма Гарэцкага, перасоўная выстава "Жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага", штогадовыя літаратурныя чытанні. А 8 красавіка а 10-й гадзіне ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры сабраліся вучні і настаўнікі школ Мінскага раёна, каб прыняць удзел у Першых школьных літаратурных чытаннях "Браму скарбаў сваіх адчыняю...", прысвечаных жыццю і дзейнасці Максіма Гарэцкага. Словы гэтыя вельмі падыходзяць да зместу мерапрыемства, таму што пісьменнік усім сваім жыццём, сваёй творчасцю адчыніў браму скарбаў у думах і сэрцах вучняў. Яго творчасць, яго трагічны лёс абудзіў у іх патрэбу прыняць удзел у чытаннях. А калі я пачула выступленні вучняў, то зразумела, што не ўсё страчана ў нашым грамадстве, і самае галоўнае — не страчана надзея на падрастаючае пакаленне беларусаў, вера ў нацыянальнае беларускае адраджэнне.

Больш за 35 школ Мінскага раёна прынялі ўдзел у чытаннях, падрыхтавана 40 рэфератаў і толькі 10 з іх атрымалі магчымасць быць прачытанымі на канферэнцыі, гэта былі самыя лепшыя. Два даклады — "Максім Гарэцкі і адраджэнне" Надзеі Дубовік, вучаніцы 10 класа Навапольскай СШ, і "Лёс бацькаўшчыны і яе сыноў у аповесці Гарэцкага "Ціхая плынь" Таццяны Маслоўскай, вучаніцы 11 класа Бараўлянскай СШ № 2, — былі вылучаны на Шостыя чытанні, што пройдуць напрыканцы траўня ў Горках.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнуўся акадэмік Акадэміі навук Беларусі, пляменнік Максіма Гарэцкага Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, ён жа падарыў выступоўцам кнігі пісьменніка. Перад прысутнымі выступіў член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Міхась Іосіфавіч Мушынскі, вядомы даследчык творчасці Гарэцкага.

"...Я жыць хачу вольным жыццём — жыццём радасці, добрага вясёлага смеху і ўсяго таго, што побач з другімі творыць гармонію жыцця. Я хачу новага, лепшага жыцця. Я крэпка, усімі сіламі жадаю яго!.." Будзем спадзявацца, гэты запавет пісьменніка ўдзельнікі чытанняў будуць несці праз сваё жыццё і зробяць усё для таго, каб жаданне Максіма Гарэцкага, яго мара "гармоніі жыцця" для беларусаў здзейснілася.

**Зінаіда КУЧАР**

# "ОБНІМИТЕСЯ, БРАТИ МОЇ!"

Асацыяцыя ўкраінцаў Беларусі "Ватра" шырока адзначыла 183-ю гадавіну з дня нараджэння вялікага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі.

9 сакавіка прадстаўнікі амбасады Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, сябры Асацыяцыі ўсклалі кветкі да барэльефа вялікаму Кабзару на бульвары, што носіць ягонае імя. У кінатэатры "Кіеў" адбылося выступленне ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці гарадскога таварыства "Кабзар".

На Міншчыне, у сядзібе-музеі Янкі Купалы ў Вязынцы сабраліся прадстаўнікі Маладзечанскага раённага культурна-асветнага таварыства "Краяны", Беларускага саюза ўкраінак, асацыяцыі "Ватра", і тут, на купалаўскай зямлі, адкрыўся фестываль "Шляхамі Тараса". У гэты па-веснавому светлы і цёплы дзень прагучалі вершы і песні Т.Шаўчэнкі ў перакладзе Янкі Купалы.

14 сакавіка ў бібліятэцы № 20 Мінска, дзе працуе аддзел украінскай літаратуры асацыяцыі "Ватра", адбыліся "Шаўчэнкаўскія чытанні". Пры садзейнічанні Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі быў наладжаны прагляд шаўчэнкаўскіх афортаў, аддзелам падрыхтавана кніжная выстава. Былі прадстаўлены таксама партрэт Тараса Рыгоравіча і ягоны "Заповіт", вышытыя В.Каханоўскай. Адкрыў чытанні прэзідэнт Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі "Ватра" В.Гутоўскі.

"Шаўчэнкаўская вясна" — так прагучала проза Ярэмы Гаяна ў выкананні старшыні Беларускага саюза ўкраінак Т.Бей і студэнта II курса БДУ І.Амяльчэні. Л.Хамко распавёў прысутным пра сяло Марыніцы, дзе нарадзіўся вялікі паэт, пра музей Т.Шаўчэнкі, які і зараз прыцягвае да сябе наведнікаў з многіх краін свету. Л.Хамко сам з'яўляецца ўраджэнцам Марыніц і штогод наведвае сваю малую радзіму.

22 сакавіка ў Цэнтры нацыянальных культур адбыўся заключны канцэрт, прысвечаны дню нараджэння Тараса Шаўчэнкі пад дэвізам "Обнімитеся, брати мої!". У гэтай вечарыне ўзялі ўдзел паэтка З.Падлінская са Слуцка (дарэчы, у гэтым горадзе нядаўна пастаўлены помнік бессмяротнаму Кабзару), хор цэнтра ўкраінскай песні "Січь" пад кіраўніцтвам Ф.Кацяша, удзельнікі мастацкай самадзейнасці гарадскога культурна-асветнага таварыства "Кабзар" і іншыя. Цёпла віталі прысутныя М.Смалюка, саліста Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, лаўрэата міжнародных конкурсаў, які выканаў украінскія народныя песні.

Шырока адзначаліся 183-я ўгодкі з дня народзінаў вялікага ўкраінскага паэта і на Брэстчыне, у Кобрыне, і іншых кутках Беларусі.

**Галіна КАЛЮЖНАЯ**

# СВЯТЛО ШЧАМЯЛЁВА У СВЕТЛАГОРСКУ



***Нядаўна ў карціннай галерэі Светлагорска адбылося ўрачыстае адкрыццё персанальнай выставы жывапісу народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва.***

**— Леанід Дзмітрыевіч, якім чынам твая выстава апынулася на Гомельшчыне?**

— З гэтай просьбай да мяне звярнуўся дырэктар мясцовай карціннай галерэі Ізяслаў Рыгоравіч Катляроў, цудоўны паэт і вельмі душэўны чалавек.

**— І як прайшоў вернісаж?**

— Выдатна. На адкрыцці выставы прыехалі старшыня Беларускага Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, акадэмік выяўленчага мастацтва Уладзімір Зінкевіч і я з жонкай Святланай. Нас цёпла віталі не толькі гарадскія ўлады, але і жыхары гэтага цудоўнага горада на Дняпры.

**— Якія творы ты прадставіў на выставу?**

— 38 палотнаў, у тым ліку пейзажы, нацюрморты, невялікія карціны, многія з якіх раней нідзе не дэманстраваліся...

**— Як доўга будзе працаваць выстава?**

— Да сярэдзіны траўня.

**Бліц-інтэрв'ю ўзяў Барыс КРЭПАК**

*На рэпрадукцыі: Л.Шчамялёў. "Начны выпас".*

# У ПОЛЫМІ ГІНУЦЬ ДЗЕЦІ!

У апошнія гады ў краіне складваецца гранічна трывожная сітуацыя ў сувязі са смерцю людзей на пажарах. Так, за 1990 —1995 гады загінулі 3254 чалавекі, з іх 296 дзяцей. Толькі ў 1996 годзе агонь адабраў жыцці ў 784 чалавек, у іх ліку апынуліся і 72 дзіцяці. На жаль, сумная статыстыка працягваецца. За два месяцы бягучага года па краіне адбылося 2186 пажараў, падчас якіх загінулі 202 чалавекі.

Сур'ёзнай праблемай застаецца безнагляднасць дзяцей, якіх бацькі вымушаны пакідаць дома адных з прычыны цяжкага матэрыяльнага становішча. 30 працэнтаў загінуўшых дзяцей былі пакінуты без нагляду альбо наогул зачыненыя ў жылых дамах ці кватэрах. Так, 23 снежня мінулага года ў 14 гадзін 40 хвілін у вёсцы Альгова Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці ў выніку пажару, што адбыўся з прычыны гульняў з агнём дзяцей, якія былі пакінуты без нагляду і зачыненыя ў доме, загінула пяцёра малых. Старэйшай дзяўчынцы — 7 гадоў, а самому маленькаму хлопчыку не было і годзіка.

Патэнцыйнымі ахвярамі агню могуць стаць 786 тысяч дзяцей, бацькі якіх алкаголікі, 134 тысячы грамадзян, якія стаяць на ўліку ў наркалагічных дыспансерах, 417 тысяч інвалідаў, 2,6 мільёна пенсіянераў, 33 працэнты з якіх — пенсіянеры па ўзросце. Вышэйпералічаным катэгорыям грамадзян у першую чаргу неабходныя асаблівыя апекаванне і дапамога.

Міністэрствам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь распрацавана і ўводзіцца ў дзеянне "Рэспубліканская праграма па папярэджанні гібелі людзей ад пажараў на 1997 — 2005 гады", якая прадугледжвае арганізацыйныя, сацыяльныя і практычныя мерапрыемствы, навуковыя распрацоўкі з адзінай мэтай — скарацíць колькасць пажараў і чалавечых ахвяр.

**Ігар ХРЫШЧАНОВІЧ, старшы інспектар пажарнай часткі Цэнтральнага раёна г.Мінска, капітан унутранай службы.**

# НЕВЫПАДКОВЫЯ СУСТРЭЧЫ: КІНЕМАТОГРАФ АНЬЕС ВАРДА

У пачатку красавіка пасольства Францыі ў РБ, БФ "Кінаклуб", Палац культуры прафсаюзаў ладзілі паказ фільмаў вядомага французскага кінарэжысёра Аньес Варда — майстра поўнаметражных і кароткаметражных фільмаў.

Аньес Варда нарадзілася ў 1928 годзе ў Бруселі, Бельгія. Бацька па паходжанні грэк, маці — француженка.

Першы свой поўнаметражны фільм "Пуант Курт" з Філіпам Нуарэ ў галоўнай ролі зняла ў 1955 годзе. Фільм атрымаў прэмію "Залатое стагоддзе" і Гран-пры за лепшы авангардысцкі фільм.

У 1962 — 1977 гадах зняла 5 поўнаметражных мастацкіх фільмаў. Самы вядомы з іх — "Клеа ад 5 да 7" (1962).

Вельмі шмат здымае кароткаметражных фільмаў, адзін з іх — "Опера-муф" (1958) — узнагароджаны міжнароднымі прызамі.

Адзін з апошніх фільмаў Аньес Варда — "Без прытулку, без закону" (1985) — атрымаў прэмію кінафестываля ў Венецыі "Залаты леў святога Марка".

Гледачы змаглі ўбачыць у Мінску 5 поўнаметражных і 6 кароткаметражных фільмаў знакамітай французанкі.

**М.Б.**

# РАЗНЯВОЛЕНАСЦЬ

У імкненні падпарадкаваць сабе чароўную гармонію прыроды чалавек, здаецца, зрабіў занадта многа для таго, каб "такі цудоўны гэты свет" моцна пахіснуўся і пазбавіўся раўнавагі. Менавіта таму сёння мы быццам бы стаім на мяжы. Аднак прымусіць прыроду стаць на калені, разбурыць гармонію аказалася значна прасцей, чым вытравіць са свядомасці землянін а неўтаймаваную моцную прагу да яе. Так і для віцебскага мастака Ігара Шкуратава пошукі гармоніі відавочна перараслі межы творчых мастацкіх задач,ператварыўшыся ў адзіна слушны і магчымы спосаб існавання на гэтай планеце. Пра гэта сведчыць і выстава яго акварэляў, разгорнутая ў выставачнай зале г.Наваполацка, сярод якіх пейзажы, партрэты, нацюрморты... Шчырае захапленне прыгажосцю навакольнага асяроддзя, імкненне да яго абагаўлення спалучаюцца ў творчасці Шкуратава з падкрэслена рамантычнымі настроямі, якія сваім "узнёслым ружовым святлом" афарбоўваюць вобразны лад яго кампазіцый. Незалежна ад жанру, у якім працуе мастак, ён вялікую ўвагу надае драматургіі твора. Даволі больш пачуваючы сябе ў акварэлі, мастак складае яскравыя вобразы, у нечым ідэалізуючы рэальнасць. Можна сцвярджаць, што ён даволі часта абапіраецца ў сваіх творах на пэўны дыяпазон колераў, ядро якога складаюць сакавітыя цёплыя таны.



Калі ў большасці сваіх пейзажаў мастак эмацыйна і каларыстычна разняволены, то ў партрэце ён, наадварот, хутчэй стрыманы, сканцэнтраваны на псіхалогіі асобы. Не столькі выяўленчая пластыка, колькі псіхалагічная напружанасць, драматызм узрушваюць гледача ў шэрагу напісаных Шкуратавым партрэтаў старых. Асобныя партрэтныя вывы падаюцца псіхалагічна блізкімі да вобразаў, створаных вялікім псіхааналітыкам Ф.Дастаеўскім. Увогуле набліжанасць мастацкага мыслення Шкуратава да літаратуры з яе своеасаблівай паэтыкай прадстаўлення вобраза відавочная.

На шэрагу выстаў, прайшоўшых летась у Віцебску і Полацку, Шкуратаў прадставіў апошняе сваё захапленне — уфалагічныя малюнкі алоўкам. Стаўленне мастака да гэтых сваіх твораў увогуле незвычайнае: ён не лічыць сябе іх стваральнікам, хутчэй, імкнецца пераканаць, што з'яўляецца ўсяго толькі рэтранслятарам пэўнай невядомай энергіі і інфармацыі. Выяўленчую форму ў сваіх малюнках мастак абвяшчае аб'ектыўна незалежнай ад сваіх уласных творчых памкненняў. Можна па-рознаму ставіцца да творчых захапленняў, канцэптуальных пазіцый мастака. Аднак відавочна, што сярод агромністай калекцыі вялікіх па памерах малюнкаў, выкананых алоўкам ці тушшу, сустракаюцца надзвычай арыгінальныя і гарманічныя па выбраных зямных крытэрыях графічнага мастацтва творы. І гэта, безумоўна, мастацтва. А ўсё астатняе, магчыма, "навука". Навука аб непазнаным свеце, якой павінны зацікавіцца яе даследчыкі.

Якім бы нязвыклым ні падавалася суседства рэалістычнага "зямнога" мастацтва з касмічнымі матывамі, шлях мастака выглядае даволі натуральным. "Уваход" Ігара Шкуратава ў сусвет, кім бы і чым бы ён ні быў выкліканы, відавочна невыпадковы. Для мастака, апаэтызаваўшага і рамантызаваўшага зямны свет, пошукі кропкі адліку, кропкі апоры ў касмічнай прасторы сталі лагічным працягам яго імкненняў да Вялікай гармоніі. У суладдзі з якой і бачыцца Шкуратаву наша вытатаванне. Менавіта таму ў шматлікіх сустрэчах, гутарках з гледачамі, якія сталі прывычнымі для яго экспазіцый, Шкуратаў больш разважае, абапіраючыся на зямныя катэгорыі.

Усе мастацкія эпохі, з той ці іншай ступенню актуальнасці, уздымалі пытанне аб месцы і ролі мастака ў грамадстве. У залежнасці ад адказу на яго грамадства і культура ці то бурна развіваліся, ці то запаволена сыходзілі ў бездань гістарычнай непрадказальнасці. Разглядаючы творы Ігара Шкуратава, яшчэ раз задаеш сабе пытанне: які шлях сабе абралі мы?

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*г. Віцебск*

*На здымку: І.Шкуратаў. "Паўночны край". Акварэль.*




◆ *З юбілеем і ўзнагародай, Святлана Акружная!*

◆ *89 міжнародных кінафэстаў праходзяць штогод у свеце і толькі пяць з іх — класа "А". Два прэстыжныя фестывалі: у Берліне і "Оскар" галівудскай кінаакадэміі — прадстаўляе каманда "К" на старонках "КІТТа".*

◆ *Апазіцыя да юбілейнай выставы ці дыскрымінацыя сцэнографаў? Інтэрв'ю з мастаком Дзмітрыем Мохавым.*

Акваторы-я!

# "КРЫБЛЕ... КРАБЛЕ... БУМС!", або СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА Ў ВІХУРЫ ВЕРНІСАЖУ

**Святлана ПАЗНЯК**

***З нагоды 50-годдзя Саюза тэатральных дзеячаў у Купалаўскім тэатры была арганізавана выстава мастакоў-сцэнографаў Беларусі. У экспазіцыі прынялі ўдзел мастакі Брэста і Магілёва, Мінска і Гародні, Віцебска і Маладзечна. На жаль, сам Купалаўскі тэатр у асобе свайго галоўнага мастака Б.Герлавана прадстаўлены не быў. Не бралі ўдзел у выставе і такія вядучыя на сённяшні дзень сцэнографы, як З.Марголін, Л.Ганчарова і Э.Грыгарук. Што гэта: асабістыя рахункі з СТД? Я сустрэлася з адным з арганізатараў і ўдзельнікаў выставы мастаком Дзмітрыем МОХАВЫМ.***


Фота Генадзя ЖЫНКОВА

— Я не думаю, каб гэта былі асабістыя рахункі з СТД, бо яшчэ год таму Саюз дапамог некаторым мастакам мінскіх тэатраў выехаць у Прагу на квадрыенале. Напэўна, для іх адмовы былі сур'ёзныя прычыны. Адно, што я ведаю дакладна, — усе мастакі ведалі пра выставу і неаднаразова былі папярэджаны.

**— Чым яны тлумачылі сваю адмову?**

— Хто казаў, што работы старыя і не вартыя для паказу, у каго ўжо была наладжана выстава за мяжой. Але ж юбілейная экспазіцыя не справаздачная, не "Вынікі сезона" і не "Новыя імёны". Гэта хутчэй рэтраспектыўная экспазіцыя. Тут чым старэйшы экспанат, тым ён мае большую каштоўнасць. Вось каб былі экспанаты 1947 года, калі СТД толькі ўтварыўся!!!

**— Ці былі складанасці з працамі, якія прадстаўлены на выставе? Як на прапанову выставіць свае эскізы і макеты адрэагавалі мастакі з абласных тэатраў?**

— Мы з мастацтвазнаўцай Ірынай Рахманавай загадзя аб'ехалі ўсе вобласці. Там я сфатаграфаваў эскізы, макеты, каб да свята падрыхтаваць буклет. Усе мастакі з радасцю адгукнуліся на нашу прапанову. Ім было прыемна, што пра іх успомнілі. І да гэтага часу яны нам тэлефануюць, выказваюць падзяку, памятаюць нас і той дзень, калі мы прыехалі да іх. Хочацца адзначыць і такую акалічнасць: мастакі ў тэатрах Беларусі ў асноўным працуюць у парах — муж і жонка. Гэта і Сідаравы ў віцебскай "Ляльцы", і Лесін з Карвяковай у Брэсцкім тэатры, і Розавы з Гародні, і Фаміна з Нікалайчыкам у Мінскім лялечным тэатры.

**— Найбольш цікава на выставе былі прадстаўлены лялечныя мастакі-сцэнографы Фаміна, Сідаравы, Рачкоўскі. Калі Сідаравым і Рачкоўскаму ў большай ступені характэрнае эмацыйнае ўспрыняцце спектакля, больш дзіцячае, казачнае, то ў макетах Фамінай мы адзначаем цвярозы розум, дакладнасць, скупасць выразных сродкаў, імкненне да філасофіі, маштабнасці, манументальнасці задумы.**

— Віцебская "Лялька" адрозніваецца цеплынёй, пяшчотай, душэўнасцю, мяккасцю і казачнасцю. А Мінскі лялечны тэатр цяпер перажывае гіганцкі скачок у сінтэз музыкі, балета і тэатральнага мастацтва (спектакль "Снежная каралева", рэжысёр А.Ляляўскі). І гэта цудоўна: тэатр не топчацца на месцы, ён шукае новыя шляхі.

**— Як Вы ацэньваеце гэтую выставу?**

— Папярэдняя сцэнаграфічная выстава, што мела шчасце адбыцца ў 1995 годзе ў оперным тэатры, была больш магутная і шыкоўная. А гэтая экспазіцыя атрымалася кампактнай і ўтульнай. І ведаеце, людзі, якія прыходзілі паглядзець на нашыя працы, не хацелі ісці з выставы, настолькі прыемнай аказалася яе энергетыка.

*Сам Дзмітрый Мохаў прадставіў у экспазіцыі макеты і эскізы да спектакляў, пастаўленых не толькі на Беларусі. У асноўным яго работы, зробленыя ў беларускіх тэатрах, знаходзяцца цяпер у Будапешце.*

*Напрыканцы хочацца падзякаваць Міністэрству культуры і Саюзу тэатральных дзеячаў за тое, што, нягледзячы на цяжкае фінансавае становішча, былі знойдзены сродкі для арганізацыі выставы.*

Кіты

# ФАРТУНА АКРУЖНОЙ БЕЗ СРОДКУ МАКРОПУЛАСА


Фота Сямёна КОХАНА

**Юрась ІВАНОЎСКІ, тэатразнаўца**

Іншым часам я задаюся такім рытарычным пытаннем: чаму Усявышні асуджае на пакуты самых годных, самых праведных, чаму адмярае поўнай поўніцай тым, хто па сваіх чалавечых прынцыпах набліжаецца да хрысціянскіх запаветаў любові, спагады, дабрыні, хто ахвяруе сабой дзеля бліжняга? Гэтае пытанне мае непасрэднае дачыненне да няпростага жыццёвага і творчага лёсу Святланы Акружной — народнай артысткі Рэспублікі Беларусь, актрысы Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, якая святкуе свой першы юбілей.

А пачыналася ўсё так бясхмарна. Гады вучобы ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце былі асветлены бацькоўскім апекаваннем выдатнага майстра і педагога Дзмітрыя Аляксеевіча Арлова, які выпеставаў многіх знакамітых коласаўцаў: Георгія Дубава, Тадэвуша Кокштыса, Тамару Шашкіну і іншых. Ужо тады, у студэнцкіх спектаклях, адзначаліся галоўныя рысы яе творчай індывідуальнасці: уменне ствараць псіхалагічна ёмісты вобраз, зазіраць у "душу" ролі, надаваць ёй сапраўднае трагедыйнае гучанне, не шкадаваць уласных нерваў. Гэтаму спрыялі і тыя ролі, што сыграла будучая актрыса ў студэнцкія гады: Ларэнцачча з аднайменнай трагедыі А.дэ Мюсэ, Старая з драмы А.Пісемскага, Каця з п'есы М.Горкага "Варвары", Лэдзі з інсцэніроўкі "Забіць чалавека" паводле апавядання Д.Лондана. Менавіта тады яе ўбачыў у студэнцкіх работах народны артыст СССР Барыс Платонаў і прадказаў пачатkоўцы добрую славу ў будучыні. Толькі адышлі ўбок і пачалі крыху забывацца апошнія экзаменацыйныя хваляванні, як ужо яна выпраўляецца ў Гомель, дзе тады (летам 1969 года) знаходзіўся на гастролях тэатр імя Якуба Коласа, каб хутчэй узяцца за першую ролю: ёй стала дзяўчынка-падлетак Анютка ў спектаклі Барыса Эрына паводле драмы Льва Талстога "Улада цемры" — чулае і даверлівае стварэнне, якое стала сведкам трагедыі, што разыгралася ў доме. Яна атрымала першы ўрок жорсткасці і падману: сілы дабра былі пастаўлены пад сумненне. Каб выжыць у гэтым свеце, трэба быць падобнай да астатніх. Але яе душа не паспела зачарсцвець. Дабрата і пяшчота, спачуванне да блізкага бяруць верх. І таму ў фінале Анютка-Акружная ідзе праводзіць Мікіту ў нялёгкі шлях, на катаргу. У памяці многіх гледачоў таго пакалення засталіся постаць дзяўчынкі і надзея, што гэтыя лепшыя душэўныя якасці не заглушыць навакольнае жыццё, такое жорсткае і бязлітаснае.

Пасля Анюткі з "Улады цемры" адбылася сустрэча з Эрыным у спектаклі "А досвіткі тут ціхія..." Б.Васільева, дзе актрыса сыграла Галю Чацвяртак, дзяўчыну з дзіцячага дома, пакрыўджаную лёсам, але з запаветнай марай аб шчасці. Яе Галя выдумляе, фантазіруе, бо калі ўяўнае знікне, застанецца жорсткая праўда і страціцца сэнс жыцця.

Маральным цэнтрам спектакля "Зацюканы апостал" А.Макаёнка (рэж. А.Смелякоў) становіцца Дачка ў адметным выкананні С.Акружной. Ад наіўнай, даверлівай дзяўчынкі да змагара за высокія духоўныя ідэалы, супраць хцівасці, ашуканства, драпежніцтва, абывацельскага асяроддзя бацькоўскага дому — такім паказаны шлях гэтай юнай гераіні, у нечым падобнай да сучаснай Жанны Д'Арк. Зусім невыпадкова вобраз Дачкі, створаны актрысай, быў прызнаны не толькі крытыкамі, а і А.Макаёнкам лепшым у Савецкім Саюзе. Што ж датычыцца легендарнай французскай гераіні, дык Жанна так і засталася для актрысы самай вялікай няспраўджанай марай. Святлана Акружная доўгі час чакала і марна спадзявалася на ролі такога маштабу — ёй давалі іграць маладых, наіўных дзяўчынак. І каб хоць неяк рэалізаваць свае нявыкарыстаныя магчымасці, актрыса запісвае на тэлебачанні маналог Жанны Д'Арк з п'есы Жана Ануя "Жаваранак". Толькі для самой актрысы наступалі нялёгкія, неспрыяльныя часы. Яна прыйшла ў тэатр, калі яго мастацкае кіраўніцтва ўзначальваў С.Казіміроўскі — вельмі чулы і ўважлівы, у асаблівасці да маладых акцёраў, чалавек. Ды і рэжысёр вельмі своеасаблівы (прыгадаем хаця б яго "Матухну Кураж і яе дзеці" Б.Брэхта). Ацанілі ж яго па-сапраўднаму тады, калі ён пайшоў з трупы. Панаванне ж новага галоўнага рэжысёра (ім стаў Валерый Мазынскі) азмрочылася для многіх таленавітых акцёраў-коласаўцаў гадамі барацьбы і канфліктаў. Святлане прапанавалі стаць падобнай да іншых маўклівай лялькай. Яна не згадзілася. Здаецца, у гэтым жыццёвыя сцежкі сцэнічных гераінь і яе асабістая моцна перакрыжаваліся. Дарэчы, у тыя гады яе запрашалі знакамітыя сталічныя тэатры. У прыватнасці, мела магчымасць трапіць у Маскоўскі тэатр на Малой Броннай у той перыяд, калі яго ўзначальваў Анатоль Эфрас... А яна іграла ў Віцебску. І не проста стварала цікавыя адметныя вобразы, а пражывала складаныя жаночыя лёсы, распавядала нам, гледачам, пра ўвогуле неблагіх людзей, зламаных жыццёвымі бурамі, альбо вытрываўшых трагічны збег абставін. Прыгадаем яе Волю Разаеву са "Старога дома" А.Казанцава (рэж. В.Маслюк), Таню Рэпнікаву з "Развітання ў чэрвені" А.Вампілава (рэж. В.Мазынскі), Дануту з "Клеменса" К.Саі (рэж. В.Маслюк), Люську з "Радавых" А.Дударава (рэж. В.Мазынскі), Фларынскую з "Плюшавай малпачкі ў дзіцячым ложку" М.Яблонскай (рэж. В.Мазынскі), Дорыс ("Любоўнікі з Каліфорніі" Б.Слэйда; рэж. М.Пінігін).

Сустрэча з Барысам Эрыным ў рабоце над вобразам Франкі са спектакля "Хам" Э.Ажэшка (дарэчы, гэты матэрыял — прапанова самой актрысы) скончылася трыумфам. Франку ацанілі як выдатную, адметную асобу, новы этап у творчасці актрысы не толькі гледачы, а і крытыка, тэатральная грамадскасць.

Пасля доўгага перапынку Святлана Акружная вярнулася на сцэнічную пляцоўку. Першая роля, сыграная ёй пасля ланцуга пакут, была з п'есы Карала Чапека "Рэцэпт Макропуласа" (рэж. М.Пінігін).

Галоўная гераіня Эмілія Марці са спектакля "Рэцэпт Макропуласа" ў пэўным сэнсе жанчына-унікум, гэткі хадзячы фантом, — захавала на працягу трох дзесяцігоддзяў сваю неўміручую маладосць і чароўнасць. А разам з імі і магутны, прываблівы голас. Святлане Акружной удаецца на дзіва віртуозна спалучыць у гэтай ролі, здавалася б, несумяшчальныя рысы — абаяльнасць, жаноцкасць і разбэшчанасць, цынізм. І мне здаецца, што ў рэшце рэшт цудоўнае, высакароднае ў гэтым вобразе (менавіта дзякуючы выканаўцы) узяло верх над агідным. Актрыса добра перадае змены ўнутранага стану сваёй гераіні ў другой дзеі.

Пасля аднаго з паказаў "Рэцэпта Макропуласа", які адбыўся падчас святкавання 70-годдзя тэатра імя Якуба Коласа, да С.Акружной са словамі захаплення і ўдзячнасці рушыў рэжысёр славутага парыжскага тэатра "Адэон", эксперт Савета Еўропы спадар Э.Малка. "Я лічу вас адной з лепшых выканальніц гэтай ролі ў Еўропе і вельмі хацеў бы паставіць з вамі "Даму з камеліямі". Мяркую, да гэтай прапановы мастацкаму кіраўніцтву коласаўскага тэатра варта было б прыслухацца.

Свой юбілей актрыса Святлана Акружная сустракае творчай працай, якой чакала паўтара гады. Спецыяльна для яе ў тэатр запрошаны цікавы беларускі рэжысёр Віталь Баркоўскі. Ён паставіў спектакль "Жанна" па п'есе Жана Ануя "Жаваранак" са Святланай Акружной у галоўнай ролі.

***17 красавіка ў Коласаўскім тэатры — бенефіс Святланы Акружной, дзе яна сыграе ў прэм'ерным спектаклі.***

*г. Віцебск*

АД ВЫДААЎЦА

# ФІНАНСАВЫ СТАН ТВОРЧАСЦІ...

**Як можа сумяшчацца дзейнасць адміністратара з творчасцю? Які стан душы ў гэткай сітуацыі? Пра гэта і іншае пойдзе размова з пісьменнікам, дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгіем МАРЧУКОМ.**



**— Што зараз адбываецца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", як пачуваюць сябе будучыя кнігі?**

— Я ўжо стаміўся адказваць на гэтае пытанне — апошнія тры-чатыры месяцы мы толькі пра гэта і гаворым. Фінансавы стан выдавецтва цяжкі, мы вымушаны выключаць з плана многія выданні. Як высвятляецца, у нашым грамадстве губляецца цікавасць да кнігі. Купляюць нашу прадукцыю з кожным месяцам менш і менш. І таму мы мусім выконваць у асноўным дзяржаўныя праграмы па школьнай бібліятэцы, дзяржаўныя заказы, выдаваць некаторыя зборы твораў. Грошы фактычна застаюцца толькі на кнігі з серый "Першая кніга паэта" і "Першая кніга празаіка". Спрабуем трошкі зарабіць на камерцыйных выданнях. На жаль, грошы ад "Белкнігі" мы атрымліваем толькі пасля рэалізацыі кніг. Мы прыпынілі выданне перакладной літаратуры, эсэістыкі, публіцыстыкі, кніг з гістарычнай бібліятэкі. Таму "Боская камедыя" Дантэ ў серыі "Скарбы сусветнай літаратуры" — як адна з апошніх ластавак. Яшчэ прывяду такі прыклад: летась з 90 запланаваных кніг выйшлі толькі 60.

**— І як жа ў такіх умовах пачуваецца творца, які да таго ж з'яўляецца адміністратарам?**

— Святочны настрой мінуў. Я зразумеў, што ў новых эканамічных умовах дзяржаўнаму выдавецтву трэба вучыцца жыць. Сітуацыя з "Мастацкай літаратурай", безумоўна, не лепшым чынам уплывае на мае ўласныя творы. Але я трымаюся. За плячыма добры стос раманаў, п'ес, казак, сцэнарыяў. Я заўсёды сур'ёзна ставіўся да творчасці, не дазваляў сабе займацца кан'юнктурай.

**— Георгій Васілевіч, я ведаю, што Вы доўгі час займаліся рэжысурай...**

— Я закончыў рэжысёрскі факультэт на Вышэйшых курсах рэжысуры і сцэнарыстаў. Дваццаць гадоў свайго жыцця я аддаў кінематографу. На жаль ці на шчасце, я зразумеў, што я не рэжысёр, а літаратар. Хаця кіно мяне пранейшаму вабіць. Вось зусім нядаўна рэжысёр Зайцаў, аператар Спарышкоў і я атрымалі Дзяржаўную прэмію за мастацкую стужку "Кветкі правінцыі". Гэта для мяне як бы кампенсацыя за маю доўгую творчую працу на ніве кінематографа.

**— Спадзяюся, што ў бліжэйшы час мы пабачым новыя Вашы творы...**

— У выдавецтве "Мастацкая літаратура" мае кнігі выходзіць не будуць — пакуль я тут з'яўляюся кіраўніком. Але ёсць спадзяванне, што нейкае выдавецтва зацікавіцца маімі навеламі. Зараз працую над раманам пра жыццё хірургаў. Кансультантам будучага рамана выступае мой добры сябра — хірург Рыгор Рычагоў.

**— Поспехаў Вам.**

**Гутарыў Зміцер ВОЛКАЎ**

# ЯГО ПРЫМАЛІ ЗА ШПІЁНА, АДНАК,

## дзякуючы яму, вы можаце трымаць у руках гісторыю многіх пакаленняў беларусаў, закладзеную ў народны арнамент. Такога матэрыялу ўжо ніхто ніколі не занатуе...




*У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" выйшлі ў свет дзве унікальныя кнігі: "Беларускі арнамент" прафесара Міхаіла КАЦАРА і "Народнае мастацтва Беларусі" доктара мастацтвазнаўства Яўгена САХУТЫ.*

*Мы, супрацоўнікі газеты "Культура", з гонарам і адначасова са смуткам паведамляем вам пра гэтыя падзеі. З гонарам, таму што наша газета мае прамое дачыненне да выхаду ў свет першай кнігі. Пра яе і пойдзе гаворка. Увесну 1993 года прафесар Міхаіл Кацар прынёс да нас у рэдакцыю ксеракопію рукапісу "Вобразы арнаменту народнага мастацкага ткацтва". Пасля супрацоўнікі нашай газеты наведвалі яго на лецішчы ў Крыжоўцы, дзе праходзілі няспешныя размовы. Там пісьменніца Галіна Булыка, якая тады працавала ў "Культуры", адной з першых пабачыла толькі што складзены рукапісны пасобнік будучай кнігі "Беларускі арнамент". Яна занатавала словы прафесара: "Арнамент існуе паўсюдна, бо ідэя паўтаральнасці закладзена ва ўсім свеце. Адзенне, ручнікі, тканіны, вырабы з саломкі, інкрустацыя, металёвыя прадметы, элементы архітэктуры... Я шукаў матэрыялы на гэтую кнігу ўсё сваё жыццё. У першай частцы сабраныя ўзоры ад глыбокай старажытнасці да XIX стагоддзя, а ў другой — творы XX стагоддзя, — ён перабіраў і гартаў старонкі: — Вось арнамент першабытнага грамадства, вось — XII — XIII стагоддзяў. Крыж Еўфрасінні Полацкай... Залатыя ўпрыгожванні, косць, жалеза, кераміка. Вось —XIV — XVI стагоддзі: усе кшталты ткацтва, афармленне кніг, арнаменты Скарыны. Для XVII найбольшхарактэрны арнаменты разьбяроў, у XVIII дамінуюць узоры слуцкіх паясоў, а таксама разнастайная вышыўка: золатам, срэбрам, бісерам, шоўкам... А ў гэтай папцы — творы нашага стагоддзя. У першай частцы тое, што мне ўдалося сабраць да калектывізацыі, бо напрыканцы 20-х на пачатку 30-х гадоў ткаць на вёсцы сталі значна меней; вось узоры з посцілак, ручнікоў... А тут — арнаменты з вясельных куфраў, а тут творы сучасных умельцаў. Дваццатае стагоддзе яшчэ не скончылася"... ("Культура", № 37 1993 г.).*



*Наша рэдакцыя маральна і як магла практычна дапамагала пажылому прафесару, настойліва будзіла грамадскую цікавасць да яго асобы і да яго прац.*

*Гэты самаадданы Чалавек пражыў нялёгкае жыццё — колькі разоў за тое, што ён валацужнічаў па вёсках, яго прымалі за шпіёна і арыштоўвалі; ён быў выключаны з партыі за тое, што падтрымаў сяброўку, дачку "ворага народа"; быў цяжка паранены на фронце; змагаўся за архітэктурныя помнікі з партыйным кіраўніцтвам у мірныя часы. І нас, супрацоўнікаў рэдакцыі, не пакідае смутак, што Міхаіла Кацара няма ўжо з намі. Дзесьці год ён не дажыў да выхаду ў свет кнігі — працы ўсяго яго жыцця.*

*Але работу па ўкладанні кнігі "Беларускі арнамент" працягнуў доктар мастацтвазнаўства Яўген САХУТА. Вось што ён сказаў, прэзентуючы гэтае выданне:*

— Усялякая кніга павінна несці людзям роднае слова, далучаць людзей да сваёй народнай самабытнай культуры. Кніга "Беларускі арнамент" Кацара служыць гэтай выскароднай мэце. Ён сёлета меўся адзначыць 90 гадоў. Вучыўся ў Маскве, а наязджаючы на радзіму, не забываўся запісваць расказы бабулек, у той час ужо 80-ці, 90 і нават па ягоных словах 100-гадовых, пра тое, што абазначаюць тыя ці іншыя ўзоры на посцілках, ручніках і іншых тканых і вышываных вырабах, запісваў і адкладваў да пары да часу. Пасля вайны, а ён быў цяжка паранены, заняўся перш за ўсё выданнем кніг пра,



скажам так, высокія, прафесійныя віды мастацтва — архітэктуру, жывапіс, графіку. А гэтыя матэрыялы чакалі свайго часу. Пасля ён пайшоў на пенсію і здавалася, што больш ён да гэтага не вернецца. І літаральна некалькі гадоў таму, ён свае запісы ўзняў. З большага іх скампанаваў, аздобіў шматлікімі ілюстрацыямі і пачаў хадзіць па розных інстанцыях, выдавецтвах — як гэтую кнігу выдаць. Тым больш, што гэты час супаў з тым, калі мы на ўвесь голас загаварылі пра нацыянальнае адраджэнне. Але любое выдавецтва, дзе ён апынаўся, сказаўшы, "ах які гэта выдатны матэрыял!", тут жа гаварыла, "ах, колькі ж гэта трэба грошай на выданне". Я думаю, што многія чыноўнікі, працоўцы ў сталіцы ў розных установах, якія маюць дачыненне да культуры, трымалі ў руках гэты рукапіс. Пасля рукапіс патрапіў у выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя". Там людзі адразу зразумелі, што гэта за каштоўнасць. Асабліва светлай памяці Барыс Іванавіч Сачанка, тагачасны галоўны рэдактар. Ён усведамляў, што трэба паспець нешта зрабіць, як адчуваў чалавек, што гэта яго апошняя добрая справа — даў ход рукапісу, нават не стаўшы лічыць, колькі гэта будзе каштаваць, маўляў, выдадзім пару дзэтэктываў ды на гэтым заробім. Неабходна было рукапіс, а фактычна гэта быў набор матэрыялаў, прывесці ў парадак.





А выдавецтва гэта не можа аплочваць, бо прымае ўжо падрыхтаваны рукапіс. Фактычна мусіў садзіцца і пісаць кніжку. У рэшце рэшт угаварылі мяне гэта зрабіць. Трэба было брацца, матэрыял мне знаёмы — вышыўка, ткацтва, рукапляценне, усе віды тэкстылю. Але праца цяжкая і вельмі дарагая, яны нават не ўяўлялі, у колькі гэта можа абысціся грошай, дый грошы ж не на мяне, а на перарысоўку здымкаў тых схематычных малюнкаў, якія там былі, зробленыя ў палявых умовах на абрыўках газет. Усё гэта трэба было разабраць, перамаляваць, перазняць — патрабавалася дзесьці 600 — 700 здымкаў. Мяне запэўнілі — усё зробім, давядзі толькі рукапіс да ладу. Раз распачыналася такая гераічная справа — грэх было адмовіцца. Карацей кажучы, за нейкія паўгода было зроблена ўсё. Дзесяткі мастакоў рабілі малюнкі, рукапіс быў падрыхтаваны, і літаральна праз год гэта кніжка выйшла. У ёй сотні ілюстрацый, прытым пераважна Віцебшчына — радзіма Кацара. Кожная з гэтых посцілак, ручнікоў — як паэма. Вось вы трымаеце ў руках ручнік, ну ручнік і ручнік, ромбы там, крыжыкі і гэтак далей. Але кожны элемент узору, аказваецца, мае пэўную сімволіку. Мы гэта ведалі, але ўжо забыліся. Сённяшнія майстрыхі таксама не помняць, а даваенныя помнілі. Ёсць ручнікі, якія можна чытаць. Напрыклад, перад вачамі посцілка, і майстрыха пачала расказваць:" Вось гэты ромб — гэта сімвал зямлі, гэта



наша ніва, якая тады добра ўрадзіла, вось гэта васьміканцовая разетка, гэта я, а шасціканцовая — гэта мой мужык, з якім мне пашчасціла ў жыцці, а букет — гэта сімвал нашага шчаслівага жыцця, а два галубкі, якія стаяць побач адзін да аднаго дзюбкамі, гэта нашае шчаслівае каханне. І ў памяць аб сваіх шчаслівых гадах я выткала гэтую посцілку, цяпер успамінаю, чытаю яе". І вось гэтак кожны элемент узору.

Дык вось, гэтую выдатную кніжку, якая выйшла вялікім накладам — 5 тыс. экземпляраў, могуць заказаць бібліятэкі, якім я раю заказваць непасрэдна ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Там яна вам абыдзецца ў 75 тысяч беларускіх рублёў. У кнігарнях яна ўжо каштуе за 100 тысяч. Для ўсіх аматараў і прафесійных дзеячаў традыцыйнай культуры — гэта выдатны падарунак. Таму што такога матэрыялу, што прадстаўлены тут, ужо ніхто ніколі не запіша. Гэта вы самі добра разумееце. Калі Кацар запісваў да вайны ў 80—90-гадовых бабулек, то само сабой зразумела, што цяпер гэтага не знойдзецца.

**Падрыхтаваў Серж МІНСКЕВІЧ**

# МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ — МУЗЫЧНЫ КРЫТЫК

Цяжка знайсці ў Еўропе чалавека, які б не быў знаёмы з паланезам "Развітанне з Радзімай" выдатнага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. Аднак не ўсім вядома, што Міхалам Клеафасам напісана опера "Зеліс і Валькур", шэраг фартэпіянных п'ес і чароўных рамансаў. Акрамя таго, Агінскі пакінуў нашчадкам і літаратурныя творы. Яго пяру належаць чатырохтомныя "Мемуары аб Польшчы і паляках", якія ўпершыню былі выдадзены ў Парыжы ў 1826 — 1827 гадах. Гэты помнік ужо прыцягваў увагу нашых даследчыкаў: яго фрагменты ў перакладзе і з прадмовай А.Грыцкевіча былі надрукаваныя ў 1995 годзе ў гістарычным альманаху "Адраджэнне". Не менш каштоўнай і цікавай выступае і другая, невялікая па аб'еме кніга Міхала Клеафаса — ягоныя "Лісты пра музыку". Гэтая крыніца пralівае святло на музычны бок дзейнасці вядомага ў свой час палітыка і дыпламата, а да таго ж адчыняе перад намі шырокую і стракатую панараму музычнага "быту" Еўропы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. "Лісты пра музыку" — гэта і яскравы мастацкі твор, багаты на цікавыя ўспаміны з жыцця тагачасных музыкантаў і самога Міхала Клеафаса.

Гісторыя ўзнікнення "Лістоў" адсылае нас у дваццатыя гады XIX стагоддзя. У гэты час Міхал Клеафас быў вымушаны назаўсёды пакінуць родавы маёнтак у маляўнічым Залессі, які, мяркуючы па грунтоўнасці, з якой быў пабудаваны, павінен быў стаць апошнім прытулкам кампазітара. У 1822 годзе, каб пазбегнуць палітычных рэпрэсій з боку царскага ўрада, сенатар Расійскай імперыі М.К.Агінскі едзе ў Фларэнцыю, дзе прайшлі апошнія 11 гадоў ягонага жыцця. Гэтыя гады сталі ціхай трагедыяй кампазітара і дыпламата. Час натхнення і творчасці ў Залессі, дзе паўстала большасць яго музычных твораў, адышоў у мінулае. І хоць зараз ягоныя дні цяклі спакойна і поўніліся мастацкімі ўражаннямі, колішняму ўдзельніку касцюшкаўскага паўстання цяжка было змірыцца з лёсам выгнанніка. Агінскі мусіў цалкам адысці ад палітычнай дзейнасці, якой быў прызначаны ад нараджэння і якой прысвячаў большую частку свайго жыцця. Вядомы ў мінулым дыпламат цяпер жыве толькі ўспамінамі і знаходзіць самарэалізацыю ў літаратурнай дзейнасці, якой спрыялі яркія падзеі і багатыя ўражанні маладосці. Сын пасла і паўнамоцнага міністра ў Пецярбургу і Вене Андрэя Агінскага, а пасля надзвычайны пасол у Галандыі М.К.Агінскі неаднаразова наведваў усе тагачасныя культурныя цэнтры Еўропы. Парыж і Прага, Вена і Лондан, Дрэздэн і Гаага, Берлін і Фларэнцыя раскрывалі перад ім свае незлічоныя мастацкія скарбы. Княскае паходжанне і высокі сацыяльны статус адыгралі не апошнюю ролю ў магчымасці зазнаць свет і лепшых яго прадстаўнікоў. Перад кампазітарам-аматарам былі адчынены дзверы ўсіх мастацкіх салонаў еўрапейскіх сталіц. М.К.Агінскі мог бачыць і слухаць многіх знакамітых музыкантаў, сярод якіх былі Моцарт, Гайдн, Паганіні, спявачка Каталані ды многія іншыя.


Міхал Клеафас Агінскі.

Увесь свой мастацкі вопыт Агінскі падсумоўвае ў Фларэнцыі, дзе ў невялікім доме каля плошчы Санта Марыя Навэла займаецца пераважна літаратурнай дзейнасцю. Менавіта адсюль кампазітар пачынае "дасылаць" свае "Лісты пра музыку" ўмоўнаму адрасату, хоць, як вядома, ужо ў Залессі пачалі з'яўляцца першыя нататкі аб мастацкім жыцці, якія пасля былі пакладзены ў аснову кнігі. І хоць "лісты" пазначаны 1828 годам, па ўсёй верагоднасці, гэта толькі дата канчатковага афармлення тэксту і заканчэння кнігі.

Сталася так, што "Лісты пра музыку" па невядомых пакуль прычынах не друкаваліся пры жыцці аўтара, хоць і былі скончаныя за пяць гадоў да ягонай смерці. І яшчэ больш за 50 гадоў рукапіс кнігі чакаў свайго часу. У 1870 годзе ў часопісе "Kronika Rodzinna" ("Сямейная хроніка") упершыню быў апублікаваны скарочаны варыянт "Лістоў" у перакладзе з французскай на польскую мову. Поўнае ж выданне кнігі здзейсніў калектыў перакладчыкаў Польскага музычнага выдавецтва толькі ў 1956 годзе. Зараз у межах праграмы "Вяртанне", распрацаванай у Беларускай акадэміі музыкі, намі быў зроблены пераклад "Лістоў" на беларускую мову. У яго аснову пакладзена другое польскае выданне, бо найбольш поўны варыянт рукапісу, які належыць Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, знаходзіцца ў досыць кепскім стане: на пажоўклай ад часу паперы французскі тэкст стаўся амаль нечытэльным.

Працуючы з "Лістамі пра музыку", я часта задавалася пытаннем: ці можа гэтая кніга, напісаная амаль дзвесце гадоў таму, прывабіць сённяшняга чытача? Ці існуе яна зараз толькі як помнік сваёй эпохі, цікавы выключна спецыялістам? Сапраўды, не многія кнігі здольныя перажыць свой час і заслужыць увагу наступных пакаленняў. Думаецца, што да такіх выключэнняў належаць і "Лісты пра музыку". Гэтай кнізе з яе багатай змястоўнасцю і несумненнымі мастацкімі вартасцямі не можа быць наканавана забыццё, і асабліва тут, на зямлі, якую Агінскі лічыў сваёй Радзімай і дзе правёў дваццаць гадоў свайго жыцця. Дзякуючы "Лістам" мы маем шчаслівую магчымасць зразумець шматгранную асобу Міхала Клеафаса — і як чалавека з дзіўным лёсам дыпламата, якога нашчадкі болей ведаюць па ягоных паланезах, і як тонкага знаўцу мастацтва, і, несумненна, як музыканта.



У першых двух лістах Міхал Клеафас спрабуе вызначыць ступень свайго музычнага таленту, распавядае пра творчы працэс, дае ацэнку ўласнай кампазітарскай дзейнасці. Акрамя таго, Агінскі падае шмат фактаў, што тычацца лёсу яго першых музычных твораў: паланезаў і маршаў, напісаных на працягу 1792 — 1797 гадоў. Ёсць тут і амаль неверагодныя гісторыі, звязаныя з легендамі аб яго смерці, якія паўсталі і распаўсюдзіліся ў Еўропе падчас яго эміграцыі, калі пад чужым прозвішчам ён "блукаў па Італіі, Нямеччыне і Канстанцінопалі".

Іншыя ўспаміны Агінскага звязаны з мастацкім жыццём Еўропы на мяжы XVIII — XIX стагоддзяў. У "Лістах пра музыку" перад намі паўстае цэлая галерэя літаратурных партрэтаў тагачасных кампазітараў і выканаўцаў. Гайдн і Моцарт,Расіні і Паганіні, Баё і Кампанэлі, Язэп Казлоўскі і Марыя Шымаоўская — вось далёка не поўны спіс бліскучых імёнаў, якія ўзгадваюцца на старонках лістоў. Апавядаючы нямала цікавага з жыцця знакамітых музыкантаў, Агінскі не забывае акрэсліць ролю, якую іх творчасць адыграла ў музычным мастацтве. Тонкі музыкант і крытык, Міхал Клеафас імкнецца прыўзняцца над сваім часам і ў незлічонай колькасці музычных з'яў вызначыць сапраўдныя мастацкія каштоўнасці.

У "Лістах пра музыку" Агінскі выступае перад намі і як гісторык. Ён падсумоўвае веды сваёй эпохі аб музыцы ў старажытнасці, а да таго ж спрабуе ў папулярнай форме выкласці кароткую гісторыю выканальніцкага мастацтва. Навуковыя і гістарычныя звесткі ў кнізе Агінскага ўзбагачаюцца шматлікімі дэталямі мемуарнага характару, якія робяць "лёгкім" стыль яго музычна-эстэтычнай працы і дапамагаюць адчуць непаўторны водар музычнага жыцця тае эпохі.

Спадзяемся, праца над "Лістамі пра музыку" будзе працягвацца. Наперадзе — падрыхтоўка да друку і падрабязнае даследаванне іх тэксту. Хочацца верыць, што гэтая кніга яшчэ знойдзе свайго чытача і зойме належнае месца ў гісторыі культуры Беларусі.

**Святлена НЕМАГАЙ**

# ЗАЛЕЖНАЯ АД АРЫСТАКРАТАЎ

У апошнія гады, з адкрыццём многіх музычных помнікаў Беларусі часоў класіцызму і ранняга рамантызму ўсё часцей паўстае пытанне аб шляхах фарміравання беларускай музычна-прафесійнай школы. Гэта натуральна, бо, як вядома, на мяжы XVIII і XIX стст. адбыліся найбольш значныя падзеі на шляху ўтварэння такіх школ у многіх усходнееўрапейскіх краінах, у тым ліку і суседніх з намі — Польшчы ды Расіі. У гэты час быў беспамылкова абраны і адзін з галоўных элементаў, "маркіруючых" нацыянальную прыналежнасць — менавіта фальклор, які дапамог афарбаваць славянскае музычнае мастацтва ў розныя нацыянальныя колеры і да сёння не страціў свайго значэння і прыцягальнасці для многіх кампазітараў.


Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.

Між тым відавочна, што музычнае мастацтва Беларусі часоў класіцызму і ранняга рамантызму як быццам засталося "глухім" да беларускай народнай музыкі: тутэйшыя кампазітары быццам бы не імкнуліся ні да актыўнага яе цытавання (як, скажам, рускія ці польскія ў сваіх першых операх), ні да стварэння на яе аснове апрацовак і песенных зборнікаў (накшталт зборнікаў Цяплова, Трутоўскага, Прача ў Расіі). Чаму?

Адказ на гэтае пытанне, думаецца, не ляжыць на паверхні, а крыецца ў найскладанейшых сацыя-гістарычных і культурных напластаваннях ды перакрыжаваннях. Не спрабуючы даць на яго канчатковы адказ, усё ж асмелюся прапанаваць адзін з магчымых падыходаў да яго вырашэння.

На падставе выяўленых сёння матэрыялаў можна меркаваць, што да XVIII ст. музычная, ды і ўся мастацкая культура Беларусі сфарміравалася як культура змешанага, пераходнага тыпу. Гэта значыць, што прыкмета пераходнасці, змешанасці, якая ў большай ці меншай ступені ўласцівая кожнай культуры, для беларускай стала прынцыповай, тыпалагічна вызначальнай. Знаходзячыся паміж заходне-каталіцкім і ўсходне-праваслаўным светам, наша культура выконвала функцыі своеасаблівага перакладчыка ў дыялогу еўрапейскага Захаду і Усходу. Яна становілася і "зонай замежжа", і сферай змяшэння, прычым з паступовым іх замацаваннем не па тэрытарыяльнай ці этнічнай, а менавіта па сацыяльнай прыкмеце. У выніку сацыя-палітычных зрухаў, што адбываліся ў Рэчы Паспалітай, у духоўнай культуры вышэйшых грамадскіх слаёў, а менавіта беларускай шляхты і магнатэрыі, паступова ажыццяўлялася і фактычна завяршалася ў XVIII ст. частковае замяшчэнне пануючага беларускага (ліцвінскага) элемента польскім. Адбылося фактычна замацаванне пэўных этна-рэлігійных элементаў за пэўнымі, рознымі саслоўнымі групамі насельніцтва. Гэтая акалічнасць мела самае прынцыповае значэнне для фарміравання і нацыянальнага вызначэння нашай музычнай культуры ў самы адказны для яе перыяд, а менавіта ў другой палове XVIII ст.

Як вядома, у гэты час развіццё ўсёй еўрапейскай культуры ў вялікай ступені было абумоўлена мастацка-стваральнай дзейнасцю палацава-арыстакратычнага асяроддзя, прадстаўнікі якога выступілі і галоўнымі фундатарамі музычна-культурных цэнтраў, і заказчыкамі, а часта — як творцы і як выканаўцы музыкі. Пры гэтым на Беларусі лёс музычна-прафесійнага мастацтва залежаў ад дзейнасці арыстакратычнага асяроддзя нават болей, чым дзе б то ні было. Пры значнай перавазе замежных творчых сіл і адносна невялікай колькасці мясцовых высокапрафесійных кампазітараў, менавіта прадстаўнікі тутэйшай арыстакратыі аказаліся аўтарамі ці сааўтарамі большасці створаных на Беларусі музычных сачыненняў. Але пры ўсёй адоранасці і высокаадукаванасці гэтых кампазітараў, пры ўсім тым, што яны, лепшыя з прадстаўнікоў тутэйшай творчай інтэлігенцыі — Мацей Радзівіл, Міхал Казімір і Міхал Клеафас Агінскія, Тадэвуш Касцюшка —добра асэнсоўвалі сваё беларускае, ці, як казалі тады, ліцвінскае паходжанне, а некаторыя нават супрацьстаўлялі сябе этнічна польскай шляхце і змагаліся менавіта за сваю краіну — Вялікае княства Літоўскае, усе яны засталіся ўсё ж такі аддзеленымі ад сялянскай масы не толькі сацыяльна-эканамічнымі і саслоўнымі, але і моўнымі, і этнічнымі, рэлігійнымі бар'ерамі. Натуральна, што ў сваёй мастацкай творчасці яны яшчэ не маглі абаперціся, як рускія ці польскія кампазітары, а ні на мову свайго народа, а ні на яго музычную спадчыну.


Міхал Казімір Агінскі.

Тым не менш цікавасць да мясцовых рэалій, сюжэтаў і вобразаў ужо выразна праявілася ў творчасці названых і іншых кампазітараў (прыгадаем "Агатку" Голанд-Радзівіла, вакальныя творы абодвух Агінскіх). Цікавасць да народнага, "нізавога" элемента ўжо была абуджана і пачала рэалізавацца ў прынцыпова новых прафесійных жанрах і формах. Цалкам верагодна, што, калі б рух насустрач беларускаму народнаму мастацтву атрымаў працяг, а "беларускасць" сталася супрацьвагай "польскасці", мясцовыя кампазітары звярнулі б тады ўвагу на беларускі музычны фальклор і адбылося б арганічнае ўключэнне яго ў прафесійнае мастацтва і, у рэшце рэшт — своечасовае фарміраванне менавіта беларускага нацыянальнага стылю і беларускай музычна-прафесійнай школы. Але ў рэальнасці адбылося іншае: пасля падзелаў Рэчы Паспалітай напрыканцы XVIII ст. большасць беларускай арыстакратыі-інтэлігенцыі абрала не беларускі, а больш блізкі ёй польскі элемент у якасці асноўнага ў яе барацьбе супраць русіфікацыі. Тыя ж кампазітары, якія па розных абставінах трапілі ў арбіту іншых культур (Ванжура, Казлоўскі, пазней — Манюшка), адразу падключыліся да нацыянальна-творчых працэсаў, якія працякалі ў гэтых культурах, і нават у многім вызначылі іх лёс. Вельмі цікава адзначыць, што апынуўшыся па-за межамі Беларусі, яны хутка звярнуліся ў сваёй творчасці да фальклорных крыніц і стварылі на іх аснове многія сачыненні.

Такім чынам, незразумелая нейтральнасць, "абыякавасць" мясцовых кампазітараў да нацыянальна-стваральнай асновы, іх "глухата" да беларускай народнай музыкі як крыніцы нацыянальнага была зразумелай і непазбежнай у тых спецыфічных гісторыка-культурных умовах, у якіх развівалася беларускае мастацтва.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

PER ASPERA AD ASTRA

# КРУГІ Ў КРУЖНІКУ САТУРНА..

## (Да аднаго "касмічнага" ліста Язэпа Драздовіча Якубу Коласу)

*"Высокапаважаны Грамадзянін Беларусі, Прэзідэнт Акадэміі Навук БССР! Год таму назад, я меў гонар паслаць у Вашу паважаную Акадэмію Навук БССР ліст з паведамленнем, што я пішу і гатоўлю да друку навуковы твор па касмалогіі ці тэарэтычнай астраноміі "Тэорыя рухаў". Але АН БССР не дала мне на гэта аніякага ответу".*

Так пачынае свой ліст Я.Драздовіч (пазначаны маем 1950 года) да Якуба Коласа. Размова ў лісце ідзе пра працу Я.Драздовіча "Тэорыя рухаў у касмалагічным значэнні", якая была напісана ім у 1948/9 гадах на Дзісеншчыне і якую аўтар збіраўся "выпусціць у свет для людзей, якія імкнуцца да веды, у як найпапулярнейшай упрошчанай форме".

Імя Язэпа Нарцызавіча Драздовіча (1888 — 1954 гг.) сёння добра вядома на Беларусі, як мастака, няўтомнага збіральніка этнаграфічных і фальклорных скарбаў на Беларусі, як даследчыка "дагістарычнай даўніны", але мала хто ведае пра цікавасць яго да астраноміі, да "небазнаўства". "Любіцель тэарэтычнай астраноміі", як называў сябе аўтар, збіраўся ў сваёй кнізе "Тэорыя рухаў" выкласці свае шматгадовыя даследаванні "па абсервацыі зорнага неба", а таксама даць "дзве навуковыя вартасці" — тэарэтычную і практычную.

*"Тэарэтычная" папаўняе сабою недакончаную працу Ньютана ў сэнсе сусветнага і нутрамасавага ўзаемацягацення нябесных цел, напрыклад: як і якім спосабам трымаець наша Зямля Месяц, а Месяц Зямлю на ўзаемацяжнасць; з чаго паўсталі І на чым трымаюцца кругі ў кружніку Сатурна; як і дзе наша зямная куля запачаткавала сваё самакручванне; як утварылася экліптыка планет соўнічнай сістэмы або што спавадавала ў нашай падпалярнай Эўропе ледніковую эпоху і г.д. З практычнага боку: 1 — як і на якіх асновах магчыма перасцерагчы жыхароў мураваных гарадоў у зоне гэтых землятрасенняў, ад катастрофы такой, якая здарылася не так даўно ў Ашхабадзе; 2 — якім чынам нам дазнацца, ці наша зямная куля ў нутры сваім пустацелая ці не; 3 — ці можа быць магчыма міжпланетнае падарожжа, а перш найперш на Луну, як найбліжэйшую станцыю ў міжпланетарным падарожжы. А самае галоўнае — ці наша Луна — Месяц абладае вадой і атмасферай, ды ці магчыма на ім якое-небудзь жыццё".*



У сваім лісце да Я.Коласа Язэп Нарцызавіч скардзіцца, што некаторыя з навуковых ісцін (гэта значыць "адкрыццяў", зробленых ім у тэарэтычнай астраноміі) аказаліся падхопленымі і выкарыстанымі "без мяне". Драздовіч мае на ўвазе ягоную бяседу з беларускімі пісьменнікамі восенню 1949 года, калі ён выказваў некаторыя навуковыя ісціны і адна з якіх "сёння" (1950 г.) адлюстравана на плакатах з картай зорнага неба, тэкст на якіх казаў аб абмежавальнасці "нашага сусвету" — "Вселенная это громадная система, которая вмещает в себя около 100 миллионов туманностей-галактик или маленьких систем-галактик". Але год назад Я.Драздовіч чуў, як па радыё казалі адваротнае: "Наша советская наука умственно дошла до того, что вселенная бесконечна, ничем не ограничена".

Тое, што "наш сусвет не бясконцы, не безгранічны, бо агранічан сістэматызацыяй" — вядома для Я.Драздовіча "даўно". (І аб гэтым ён гутарыў з беларускімі пісьменнікамі.) Таму ён сумуе, што ягонае "аўтарскае права" не паважаецца. Але не толькі гэта клапоціць чалавека, якому "ужо пад семдзесят гадоў" і які, пры ягоным "вандроўным жыцці", доўга пражыць не спадзяецца. "Я хачу толькі аднаго, каб мая даўгалетняя праца дарма не змарнавалася, не згінула ад пажараў вайны і ад не захавання яе праз захоўшчыкаў "расцёпаў" і неразумеючых захавальнікаў... "Дыплома" з мяне "об окончании физико-математического факультета" (як з педагога) прашу не патрабаваць, бо я яго не маю. Адукацыя мая Гершэлеўская. Астраном Гершэль (адкрыў планету Уран, падвойныя зоркі і інш.) быў музыкант, а я мастак". Можа для Акадэміі Навук я і "не падыходжу"... Але ніхай..."

Бязмоўнае шматкроп'е... Часам яно кажа болей, чым слова, болей, чым пачуццё... Сёння можна жартаваць над навуковасцю прац па касмалогіі Язэпа Драздовіча, у творах якога няма ніводнай формулы, акрамя выдатных астранамічных схем і малюнкаў, якія тлумачаць ягоныя "навіны", і беларускай мовы, на якой аўтар распавядае нам свае "небазнаўчыя" дыялогі. Магчыма, прасцей усе яго працы на касмічную тэму назваць "летуценнямі", ці захапляцца часам "музычным жывапісам" космасу Чурлёніса, ці рабіць выгляд, што гэта "дзівосныя рэчы" — не болей... А як жа тая тытанічная праца, якую праводзіў праз сваё жыццё, "як адважны і пакорны воін" — "любіцель тэарэтычнай астраноміі"? Няўжо яна не патрэбна беларускай культуры сёння?

Мы добра ведаем пра творчы ўздым, які ахопліваў юнакоў у 30-я гады пасля пералёту В.Чкалава праз Паўночны полюс у Амерыку, ці пра жаданне "стаць касманаўтам" пасля касмічнага старту Ю.Гагарына. Але ўсё гэта адбывалася там, у Расіі, не вельмі далёка, але ж...

"Дурная птушка свайго гнязда не шануе" — кажа беларуская прыказка. І хто ведае з нас, як бы змяніўся лёс беларускіх юнакоў, якія даведаліся б аб "небазнаўстве" Язэпа Нарцызавіча трошкі раней, напрыканцы 30-х, 40-х гадоў касмічнага стагоддзя?

**Юры ШАЙКОЎ,**
**супрацоўнік Гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе".**

*На здымку: Язэп Драздовіч (фота 1917 г.).*

# ВІФЛЕЕМСКАЯ ЗОРКА НЕ ЎЗЫХОДЗІЦЬ ДВОЙЧЫ

***Што толькі не пісалі пра камету Хэйла-Бопа! Некаторыя расійскія СМІ, ва ўласцівай для іх манеры, не ўтрымаліся нават ад спробаў наіўнай сенсацыйнасці: вядома ж, у свеце вольнай прэсы існуе канкурэнцыя. Нашыя ўсходнія калегі абнародавалі гіпотэзу, паводле якой нонешняя камета — гэта тая самая Віфлеемская Зорка, што прадвясціла нараджэнне Ісуса Хрыста. Сцвярджаецца, што менавіта камета, якая сама па сабе больш яркая, адметная ад зорак, здольная паводзіць сябе так, як апісана ў Свяшчэнным Пісанні: прыпыняцца на небе, знікаць і зноў з'яўляцца. Цікава, што пра гэта кажа Царква? Вось што нам паведамілі ў Мінскім епархіяльным упраўленні Беларускай Праваслаўнай Царквы:***

— Цікавасць да гістарычных і навуковых фактаў, якія б пацвердзілі змест Свяшчэннага Пісання, узнікла яшчэ на пачатку стагоддзя. Аляксандр Мень у кнізе "Сын чалавечы" адзначыў, напрыклад, апрача ўзгаданага тлумачэння Віфлеемскай Зоркі як каметы, яшчэ і больш складаную астранамічную версію тых часоў: візуальнае сумяшчэнне планет Юпітэра і Сатурна.

Царква ж трактуе з'явы з Пісання так, як яны і былі апісаныя — як праяўленне Божай, ангельскай сілы. Калі казаць пра Віфлеемскую Зорку, то, відаць, гэта было тое знаменне, якое адкрылася не кожнаму. Тры валхвы, магі — Гаспар, Мельхіёр і Балтазар, якія адначасова з трох канцоў свету прышлі пакланіцца нованароджанаму Цару Іудзейскаму, Збавіцелю Свету, відаць, былі вызначанымі асобамі. Дарэчы, вядома, што, пакланіўшыся Ісусу, яны адмовіліся ад варажбіцтва і былі накіраваныя Богам у далейшы шлях. Зорка вяла іх да Іерусаліма, а там знікла. І толькі потым, калі яны выйшлі на дарогу да Віфлеема, узнікла зноў і павяла, покуль не прыпынілася проста над месцам, дзе нарадзілася Богадзіця. Павяла толькі іх — і нікога іншага! Падобным жа чынам праявілася ангельская сіла, калі, напрыклад, народ абраны выйшаў з Егіпта і вандраваў па пустыні, і вёў яго вогненны слуп уначы, а дымавы слуп — удзень. Навука здолее тлумачыць гэтыя з'явы так ці інакш, але Царква — толькі як Божае знаменне. Апрача Свяшчэннага Пісання, дзе яны апісаны, Царква дае іх трактоўку таксама і ў Царкоўным Паданні (Богаслужэбных тэкстах), дзе падаюцца тэксты набажэнстваў і песнапенняў.

Што да каметы, то, паводле народных павер'яў, яе з'яўленне звязвалася з пераменамі і не заўсёды да лепшага. Царква трактуе яе і трактавала раней, як Божае папярэджанне. Чалавецтва павінна задумацца, ці так яно жыве. Сказана: "Не баішся Бога, узбаішся знамення". Бог, магчыма, папярэджвае народы, што мера беззаконня вялікая, а калі яна перавысіць адпаведную мяжу, можна чакаць Суда Найвышэйшага. Аднак Хрыстос-Збавіцель папярэджваў, каб не адлічвалі дні, часы і тэрміны, бо ён, якімі застане, такімі і судзіць будзе. Хрысціяніну павінна быць не так важна, калі прыйдзе Судны Дзень. Таму ўсе разлікі — ці аб Другім прышэсці, ці аб Антыхрысце ў сувязі з гэтай каметай — Царква не падтрымлівае. Мы павінны быць гатовымі заўсёды і заўсёды трымаць душу і цела ў чысціні.

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**



# ЦІ ГЛЯДЗЯЦЬ МІНЧУКІ НА НЕБА?



***Беларусь увогуле, і Мінск, зразумела, у першую чаргу, маюць славу высокаадукаваных рэгіёнаў. Дарэчы, цалкам справядліва. Вынаходніцтвы і адкрыцці беларускіх навукоўцаў не аднойчы шырока абвяшчаліся як у галіне прыкладной навукі, так і ў навуцы акадэмічнай. Але вось знайсці дасведчанага субяседніка, каб паразмаўляць аб зорках, а дакладней, аб камеце Хэйла-Бопа, я так і не здолеў, хоць намаганняў прыкладаў шмат. Прэс-сакратар АН Беларусі Уладзімір Хрыпач у разгубленасці параіў звярнуцца ва Універсітэт, адзначыўшы, як мне здалося, са шчырым здзіўленнем, што ў Акадэміі навук вучоных-астраномаў ці хаця б аматараў, няма. Але вельмі ўжо хацелася дасягнуць першакрыніцаў ведаў, не забруджаных сябрамі-журналістамі. Таму я прыйшоў... у Планетарый.***

***Дырэктар Лаліта Аляксандраўна ДУМАЧОВА, відавочна ж, перажывае зараз свае, прабачце за каламбур, "зорныя гадзіны". Мой візіт быў успрыняты, як і належыць успрымаць візіты журналістаў распешчанай славутасці: маўляў, няма часу, інтэрв'ю не даю, ніякіх дыктафонаў, ніякіх запісаў і гэтак далей. Але ж цярпелі і не такое, быў бы сэнс ды карысць! Таму — слова знаўцы:***

— Камета, якую мы назіраем зараз у паўночнай частцы неба, была адкрыта ў снежні 1995 года амерыканскім астраномам Хэйлам, а літаральна праз гадзіну — Бопам, таксама амерыканцам. Мае ядро ад 40 да 60 кіламетраў у дыяметры і "хвост" даўжынёй каля 150 мільёнаў кіламетраў. Камета будзе добра бачная аж да канца красавіка, а потым, у траўні, паступова пасунецца ў паўдзённае паўшар'е, праз сузор'і Андрамеды, Персея, Цяльца, Арыёна.

Каметы ўвогуле вельмі цікавыя для навукоўцаў перш-наперш тым, што складаюцца з першарэчыва, якое дагэтуль не даследавана і хавае ў сабе шмат загадак. Далёка на перыферыі Сонечнай сістэмы існуе цэлы пояс, "бублік" іанізаваных сцвярдзелых газаў, пояс камет, адкуль яны часам і вырываюцца ў свае вандроўкі да Сонца. Найбольш вывучана, вядома ж, камета Галея, якая набліжаецца да Зямлі раз у 76 гадоў і апошні раз была бачная ў 1986 годзе. Загадкі, якія яна тады прынесла, — гэта сляды двух элементаў, якіх няма ў сістэматычнай табліцы, а таксама малекулы складаных арганічных рэчываў. У дадатак высветлілася, што ядро каметы, глыба зледзянелых газаў, мае ў цэнтры тэмпературу вышэй за 100 градусаў Цэльсія. Падобных загадак каметы носяць шмат, таму існуе праект запуску да якой-небудзь з іх касмічнага зонда, які зрабіў бы пасадку проста на ядро.

Што датычыцца небяспекі, якую нясе зямлянам касмічная госця, то, як кажуць, "чуткі перабольшаныя". Зараз навукоўцы ўжо сышліся ў меркаванні, што набліжэнне каметы не вядзе за сабой на Зямлі ні землятрусаў ці паводак, ні смерчаў ці эпідэмій. Іншая справа — Месяц ці Сонца ў нейкіх фазах. Калі мовіць аб магчымасці атручэння газамі з "хваста" каметы, то гэта та сама надумана, бо Зямля праходзіць праз рэшткі "хвастоў" камет, якія скончылі сваё жыццё ля Сонца, колькі разоў на год. І, дарэчы, атрутных газаў у каметах не вызначана. Ды і набліжаецца, напрыклад, камета Хэйла-Бопа да Зямлі на адлегласць 190-200 мільёнаў кіламетраў, не бліжэй. Рэальная небяспека можа пагражаць толькі ад прамого сутыкнення каметы з нашай планетай, як бывае і пры сутыкненні з метэарытамі. Зараз даказана, што тыя ж дыназаўры, якія панавалі на Зямлі на працягу 150 мільёнаў гадоў, вымерлі 650 мільёнаў гадоў таму менавіта пасля падзення вялізнага метэарыта. Але тут сваё слова могуць сказаць вучоныя. Зараз распрацоўваецца цэлая праграма абароны Зямлі ад сутыкнення з нябеснымі целамі. А арбіты камет і наогул добра разлічаныя. Таму цяперашняя нябесная з'ява не нясе нічога, апрача магчымасцяў пазнання Сусвету. Назіраць яе вельмі добра можна ў нас, у Планетарыі. Ды і не толькі яе. Дзівосны свет зорак мае шмат прыгожых з'яваў!

**Запісаў Ігар КЛОКАЎ**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Першы намеснік галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 10.04.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3554
Замова 2106
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**